Пралетарыі ўсіх краін, злучайцеся!

СУВЯЗЬ САВЕЦКІХ ОРГАНАЎ ПАМІЖ САБОЙ І МАСАМІ—АСНОВА САВЕЦКАГА БУДАЎНІЦТВА.

# БЮЛЕТЭНЬ
## САВЕТУ НАРОДНЫХ КАМІСАРАЎ
## БЕЛАРУСКАЕ ССР

27 МАЯ 1927 г.
№ 10 (35)

3-ці год ВЫДАНЬНЯ

ВЫДАНЬНЕ СНК БССР
МЕНСК—1927 г.

# З Ь М Е С Т.

## Частка афіцыйная.

Стар.

## Частка неафіцыйная.

## 1. Пастанова Эканамічнае Нарады пры Савеце Народных Камісараў БССР

### ПА ДАКЛАДУ ПАСТАЯННАЕ НАРАДЫ ПРЫ ЭКАНАМІЧНАЙ НАРАДЗЕ ПА РАСПРАЦОЎЦЫ ПЫТАНЬНЯЎ ДАПАМОГІ СЯЛЯНСКАЙ БЕДНАЦЕ.

Заслухаўшы даклад Пастаяннае Нарады пры Эканамічнай Нарадзе БССР па распрацоўцы пытаньняў дапамогі сялянскай беднаце аб мерапрыемствах па дачы льгот сялянскай беднаце, Эканамічная Нарада пры Савеце Народных Камісараў БССР пастанаўляе:

I. Плян працы Нарады і пратаколы за №№ 1, 2 і 3 зацьвердзіць.

II. Сьпіс льгот, дадзеных і даваемых дзяржаваю па лініі Народнага Камісарыяту Земляробства і сельска-гаспадарчага крэдыту калектыўным сельскім гаспадаркам (камунам, арцелям і інш.) і бяднейшым сялянскім гаспадаркам, зацьвердзіць у наступнай рэдакцыі:

1) бясплатнае зерняачышчаньне і карыстаньне машынамі і прыладамі з пракатных пунктаў;

2) бясплатнае карыстаньне злучнымі пунктамі;

3) скідка на 25 проц. з кошту і пераважнае права на атрыманьне пасадачнага матэр'ялу;

4) бясплатная выдача сродкаў барацьбы з шкоднікамі;

5) бясплатная выдача і пераважнае права на атрыманьне інвэнтару і іншых прадметаў абсталяваньня, дадзеных пры паказальных зоотэхнічных мерапрыемствах;

6) выдача насенных пазычак пераважна беднаце;

7) скідка на 25 проц. з кошту пры водпуску сьвінога маладняка ў раёнах дзейнасьці бэконных фабрык;

8) пазбаўленьне цалкам ад платы за земляўпарадчыя работы пры ўнутрыселішчным земляўпарадкаваньні і землянадзяленьні з запаснага фонду;

9) дача скідкі да 30 проц. і растэрміноўкі плацяжу да 5-ці год пры продажу будынкаў ліквідуемых дзяржаўных зямельных маемасьцяй;

10) пазбаўленьне беднякоў, арганізаваных у камуны, арцелі, сельска-гаспадарчыя таварыствы, ад арэнднай платы за перадаваемыя ў іх карыстаньне зямельныя ўдоб'і дзяржаўнае зямельнае маемасьці;

11) здача ў арэнду без таргоў і па паніжаных нормах ацэнкі ўсяе астатняе маемасьці (будынкі, сады, жывы і мёртвы інвэнтар) ліквідуемых дзяржаўных зямельных маемасьцяй;

12) дача бясплатна плошчаў для здабычы торпу на ўласныя апалавыя патрэбы;

13) бясплатная дача вучасткаў для здабычы гліны, пяску і вапны пры правядзеньні будаўніцтва (у асаблівасьці агнятрывалага);

14) бясплатнае тэхнічнае абслугоўваньне таварыстваў па агнятрываламу будаўніцтву;

15) выдача 100 проц. замест 75 проц. узнагароды за забіваемую жывёлу па пастанове вэтэрынарна-санітарнага нагляду;

16) бясплатная вэтэрынарная дапамога;

17) водпуск лесу бясплатна і па паніжанай таксе на будаўніцтва і апал з фонду, які прызначан для бясплатнага і льготнага водпуску лесу;

18) дача лесу ў крэдыт для рамонту старых будынкаў—да 3-х год і пабудовы новых да—8-мі год у першую чаргу калектыўным гаспадаркам і земляўпарадкоўваючайся беднаце;

19) бясплатны і льготны водпуск лесу для паказальнай перабудоўкі і пабудаваньня новых жывёльных двароў, правадзімай пад кіраўніцтвам Аддзелу Жывёлагадоўлі;

20) дазвол крэдыту ніжэй установленай мінімальнай нормы, г.-ё. ніжэй за 10 руб, пры набыцьці сельска-гаспадарчых машын;

21) бясплатны і льготны са скідкай да 25 проц. рамонт сельскагаспадарчага інвэнтару ў майстэрнях савецкіх гаспадарак бяз выдачы матар'ялаў;

22) бясплатная дача савецкімі гаспадаркамі машын беднаце для ачысткі збожжа, а таксама прыладаў для апрацоўкі глебы;

23) абмен сялянскага пасеўнага матар'ялу (незасьмечанага) на лепшы пасеўны матар'ял савецкіх гаспадарак пуд за пуд;

24) дача скідкі на 25 проц. з кошту і пераважнага права на атрыманьне пасадачнага матар'ялу з пітомнікаў савецкіх гаспадарак;

25) дача скідкі і поўнае пазбаўленьне ад платы за карыстаньне злучнымі пунктамі савецкіх гаспадарак;

26) поўнае пазбаўленьне ад платы судовых пошлін і канцылярскага збору, пры спрэчках аб праве карыстаньня на зямлю ўсіх калектыўных і бядняцкіх гаспадарак;

27) выдача пазычак на куплю рабочае і рагатае жывёлы, сел.-гасп. машын і на пабудаваньне і рамонт жылых і сельска-гаспадарчых будынкаў з фонду беднаты, выключна бядняцкім гаспадаркам, у першую чаргу аб'яднаным калектыўным гаспадаркам (камуны, арцелі, сельска-гаспадарчыя таварыствы), а таксама аднаасабовым з растэрміноўкай плацяжу ад 2 да 6-ці год і з 5 проц. гадавых, аднак, не выключаючы выдачы крэдытаў на гэту мэту і з іншых фондаў;

28) дазваленьне растэрміноўкі плацяжу да 3-х год паявых узносаў пры ўступленьні ў члены сельска-гаспадарчых крэдытных таварыстваў;

29) выдача бяспроцантных пазычак спэцыяльнага фонду на гэту патрэбу для аплаты ўступных і паявых узносаў гаспадаркам, ня маючым сродкаў аплаты гэтых узносаў і першай часткі паявога ўзносу па растэрміноўцы;

30) паніжэньне проценту за крэдыт, дадзены для закупкі ўгнаеньня, племяннае жывёлы і племянных коней на 25 проц. Паніжэньне павінна ісьці за рахунак Беларускага Сельска-Гаспадарчага Банку і нізавой сеці;

31) дача доўгатэрміновага мэліарацыйнага крэдыту да 15-ці год.

Апроч таго, калектыўныя гаспадаркі і бяднейшыя сялянскія гаспадаркі маюць перавагу перад усімі іншымі грамадзянамі пры аказаньні агранамічнай і вэтэрынарнай дапамогі, пасьбе жывёлы, зборы грыбоў і ўсіх іншых відах дапамогі дзяржавы, аказваемай бясплатна ўсяму насяленьню.

III. Даручыць Народнаму Камісарыяту Грашовых Спраў, Народнаму Камісарыяту Земляробства і іншым Народным Камісарыятам, а таксама і крэдытным установам даць мясцом і падцьвердзіць дадзеныя раней дырэктывы да ажыцьцяўленьня дадзеных сялянскай беднаце льгот.

IV. Даручыць Нарадзе па распрацоўцы пытаньняў дапамогі сялянскай беднаце ўскорыць дачу пераліку існуючых і неабходных да дачы сялянскай беднаце льгот па лініі Народнага Камісарыяту Грашовых Спраў і Дзяржстраху.

V. Пастанову Нарады аб льготах беднаце па сельска-гаспадарчаму падатку на 1927—28 год і аб зьняцьці нядоімак па сельска-гаспадарчаму падатку за 1926—27 год і мінулыя гады зацьвердзіць і падаць на зацьверджаньне Савету Народных Камісараў БССР.

Старшыня Эканамічнае Нарады
при Савеце Народных Камісараў БССР **М. Карклін.**

Адказны Сэкратар Эканамічнае Нарады
пры СНК БССР **В. Крывіцкі.**

30 красавіка 1927 г.
г. Менск.

---

## 2. Пастанова Эканамічнае Нарады пры Савеце Народных Камісараў БССР

### АБ МЕРАПРЫЕМСТВАХ ПА ПАЛЕПШАНЬНЮ СТАНУ САВЕЦКІХ ГАСПАДАРАК.

Заслухаўшы даклад Н. К. Рабоча Сялянскай Інспэкцыі аб мерапрыемствах па палепшаньню стану савецкіх гаспадарак, Эканамічная Нарада канстатуе:

Адзначаючы, што за апошнія гады адбываецца паступовы гаспадарчы пад'ём і значнае ўзмацненьне савецкіх гаспадарак, якое выявілася:

а) у паступовым зьнішчэньні стратнасьці ў шэрагу гаспадарак і ў некаторым павялічэньні асноўнага капіталу, часткаю за кошт атрыманьня прыбыткаў;

б) у павялічэньні засеваў і росьце жывога і мёртвага інвэнтару побач з павялічэньнем апрацоўкі зямельных плошчаў сваімі сіламі;

в) у падвышэньні ўзроўню тэхнікі гаспадарак (шматпольны севазварот і інш.), павялічэньні ўраджайнасьці, удояў малака і плошчы пад палепшанымі культурамі. а таксама павялічэньні догляду за садамі;

г) ва ўзмацненьні агрыкультурных работ па абслугоўваньню сялянскае гаспадаркі;

д) у частковым падборы больш адпаведнага ліку кіраўнікоў, якія атрымалі за гэтыя гады вопыт працы.

Побач з гэтым неабходна прызнаць наліччa цэлага шэрагу адмоўных зьяў у будаўніцтве савецкіх гаспадарак і гаспадарчай дзейнасьці як цэнтральнага апарату Белсельтрэсту, так і асобных савецкіх гаспадарак, а імена:

1) абмежаванасьць асноўных і зваротных капіталаў савецкіх гаспадарак, а таксама невыстарчальнае крэдытаваньне апошніх, выпадкі нескарыстаньня мэтавых крэдытаў па прызначэньню і не-

узгадненьня з каштарыснымі меркаваньнямі, а таксама выпадкі буйнай запазычанасьці;

2) пашыранасьць апарату Праўленьня трэсту, што абыходзіцца дорага, ня гледзячы на дырэктывы Н. К. Рабоча-Сялянскай Інспэкцыі, штат не скарочан да астатняга часу;

3) скарыстаньне сродкаў на гандлёвыя апэрацыі, не зьвязаныя непасрэдна з разьвіцьцём савецкіх гаспадарак, высокі працант арганізацыйных выдаткаў, які бярэцца Праўленьнем за рэалізацыю прадукцыі савецкіх гаспадарак (4—8 проц. за збожжа і 5—18 проц. за крахмал), вялікае налічэньне на сабекошт пры збыце, якое даходзіць да 25—35 проц. (у сучасны момант гэтыя зьявішчы зьнішчаны);

4) несваечасовае складаньне вытворчых плянаў і розначалосьсі іх з пэрспэктыўным плянам, а таксама выпадкі неадпаведнасьці напрамку савецкіх гаспадарак іх фактычнаму разьвіцьцю, як вынік невыстарчальнага вывучэньня асаблівасьцяй асобных гаспадарак, слабая жывая сувязь у абслугоўваньні інструктарскімі сіламі і інш.;

5) непадрыхтаванасьць і слабая кваліфікацыя значнай часткі адміністратараў савецкіх гаспадарак, ў выніку чаго адзначаецца слабае правядзеньне плянавасьці ў гаспадарках, нерацыянальнае скарыстаньне рабочае сілы і стратнасьць шэрагу савецкіх гаспадарак;

6) налічча ў шэрагу гаспадарак адсталых форм і мэтадаў гаспадараньня (арэнда сенажацяй, зьдзельшчына, нізкая тэхніка вытворчасьці, нечыстата палёў і г. д.);

7) надзвычайна складная справаздачнасьць пры нізкай кваліфікацыі рахунковага пэрсаналу, неналаджанасьць рахункаводзтва ў шэрагу савецкіх гаспадарак;

8) асабліва неабходна адзначыць: а) папаўненьне жывога інвэнтару да 1926 г. было пераважна колькаснае без выстарчальнай ўвагі якаснаму складу папаўненьня, б) бязупынную стратнасьць жывёлагадоўлі (за 1925 г.), в) нізкую прадукцыйнасьць малочнае жывёлы (сярэдні гадавы ўдой ня больш 70 пуд. за 1925 г. і 90 пуд. за 1926 г.), г) дрэнныя ўмовы кармленьня, догляду і ўтрыманьня жывёлы, невыстарчальную выбракоўку старых і нізкапрадукцыйных жывёлін у асобных савецкіх гаспадарках і вялікі процант маладняку; д) стратнасьць асобных інтэнсыўных культур, бульбы і караньплодаў з прычыны недахопу ўгнаеньня і дрэннага догляду за гародамі;

9) няправільнае разьмеркаваньне мёртвага інвэнтару паміж асобнымі савецкімі гаспадаркамі (у аднэй ёсьць лішні, а ў другой— не хапае), налічча нягоднай маемасьці, няпрыняцьце мер да яго рацыяналізацыі, ня гледзячы на шмат дырэктыў, пасланных з цэнтру і з боку Н. К. Рабоча-Сялянскай Інспэкцыі;

10) ня гледзячы на значнасьць капіталу, які лічыцца ў будоўлях, у савецкіх гаспадарках вялікая патрэба ў гаспадарча-годных і жылых будынках, што тлумачыцца налічча дарагіх будынкаў і будоў, непрыстасаваных да ўмоў работы савецкіх гаспадарак; побач з гэтым цяжкія кватэрныя ўмовы і зусім невыстарчальны водпуск сродкаў на бягучы рамонт і новае будаўніцтва;

11) нерацыянальнае скарыстаньне сталай рабочай сілы пры шырокім ужываньні асобнымі савецкімі гаспадаркамі ў працягу году падзённых рабочых у колькасьці, значна перавышаючай штатных рабочых, несваечасовае складаньне калектыўных умоў і частыя пару-

шэньні адміністрацыяй ўмоў найму, бязупынная запазычанасьць рабочым, якая даходзіць (разам з страхавымі ўзносамі) да 200.000 р.;

12) прадукцыйнасьць працы хоць трохі павялічылася, але яшчэ застаецца невыстарчальнай, як вынік малай зацікаўленасьці рабочых, а таксама і з прычыны дрэннай арганізацыі адміністрацыяй работ, слабай работы вытворчых камісій і нарад і няўважлівасьці да іх як з боку адміністрацыі, так і рабочкому;

13) невыстарчальнасьць агрыкультурнай работы сяродваколічнага сялянства ў шэрагу савецкіх гаспадарак, з прычыны слабасьці матар'яльнай базы савецкіх гаспадарак і неаплачваемасьці часьці работ;

14) культурна-асьветная праца сярод рабочых пастаўлена слаба, часткаю з прычыны няўважлівых адносін з боку адміністрацыі, саюзу і недахопу сродкаў на палепшаньне яе пастаноўкі (клюбу, абсталяваньня, літаратуры).

Гэтыя недахопы адзначаюцца як вынік невыстарчальнай ўвагі зямельных органаў на мясцох з іх ліквідацыйным настроем да будаўніцтва савецкіх гаспадарак, слабай увязкі іх агрыкультурных мерапрыемстваў з задачамі правільнага скарыстаньня савецкіх гаспадарак, як кіраўнікоў агрыкультурнага ўплыву на сялянскую гаспадарку.

Для таго, каб савецкія гаспадаркі зьяўляліся ўзорамі буйных культурных сельскіх гаспадарак і цьвёрда-б сталі на шлях разьвіцьця, неабходна няўхільнае і рашучае змаганьне за зьнішчэньне ўсіх тормазаў у разьвіцьці савецкіх гаспадарак і недахопаў у працы, у першую чаргу зьнішчэньне ліквідацыйных настрояў да будаўніцтва савецкіх гаспадарак, а таксама самае рашучае праводзеньне рэжыму эканоміі ў сыстэме кіраваньня савецкімі гаспадаркамі і гаспадараньня, у зьвязку з чым Эканамічная Нарада

ПАСТАНАЎЛЯЕ:

1. У адпаведнасьці з пэрспэктыўным плянам разьвіцьця савецкіх гаспадарак, зацьверджанага Саветам Народных Камісараў БССР і 5-ці гадовага пляну фінансаваньня савецкіх гаспадарак, прыняць тэрміновыя меры да водпуску ў асноўны капітал савецкіх гаспадарак сумы, прадугледжанай плянам (ня менш 460.000 р.), пры чым гэтыя сродкі павінны быць савецкімі гаспадаркамі скарыстаны галоўным чынам, на папаўненьне жывога і мёртвага інвэнтару з мэтай канчатковай ліквідацыі арэнды і зьдзельшчыны;

2. Мэтавыя крэдыты, атрыманыя Белсельтрэстам па бюджэту за час да 1-га студзеня 1926 г. ў суме 195.000 р., залічыць у асноўны капітал савецкіх гаспадарак.

3. Для павялічэньня зваротных сродкаў савецкіх гаспадарак, прызнаць неабходным узмацненьне і крэдытаваньне апошніх шляхам павялічэньня долі ў крэдытных плянах Сельска - Гаспадарчага Банку, Дзяржаўнага Банку на больш льготных умовах, прыстасавальна да асаблівасьцяй работы савецкіх гаспадарак і іх прадпрыемстваў, на тэрмін да рэалізацыі ўраджаю ці адпаведнай прадукцыі.

Даручыць Савету Банкаў распрацаваць пытаньне аб крэдытаваньні савецкіх гаспадарак у гэтым годзе і аднaчасова распрацаваць плян крэдытаваньня савецкіх гаспадарак на будучы час і ў тыднёвы тэрмін унесьці на разгляд Эканамічнае Нарады.

4. Паступленьні па сел.-гасп. падатку з трэстыраваных савецкіх гаспадарак накіраваць на арганізацыю асобнага фонду па крэдытаваньню савецкіх гаспадарак у частцы, якая праходзіць па дзяржаўнаму бюджэту.

5. Пазбавіць савецкія гаспадаркі ад узносаў арэнднае платы.

6. Даць ўсім савецкім гаспадаркам і іх асобным прадпрыемствам льготны (10 проц.) тарыф па сацыяльнаму страхаваньню.

7. У галіне аховы працы ў савецкіх гаспадарках правесьці наступныя мерапрыемствы:

а) палепшыць пастаноўку мэдычнай дапамогі рабочым савецкіх гаспадарак, дзеля чаго: 1) у гаспадарках з 50-ю і больш рабочымі адвесьці спэцыяльныя пакоі для хворых рабочых, 2) арганізаваць пэрыядычны мэдычны агляд рабочых, якія жывуць у інтэрнаце, 3) забясьпечыць бесьперабойную дачу амбуляторнай дапамогі савецкім гаспадаркам у час летніх палявых работ;

б) поўнасьцю забясьпечыць усіх рабочых спэцыяльнай вопраткай, вызначанай сьпісамі Н. К. Працы, адначасова даручыць Н. К. Працы разам з Саюзам сельска-гаспадарчых і лясных рабочых і Белсельтрэстам пераглядзець нормы спэцвопраткі для рабочых савецкіх гаспадарак, маючы на ўвазе, што існуючыя сьпіскі не адпавядаюць свайму назначэньню і не ахопліваюць сабою шматлікавыя катэгоры рабочых савецкіх гаспадарак і іх тэхнічных прадпрыемстваў;

в) палепшыць пастаноўку аховы працы на тэхнічных прадпрыемствах савецкіх гаспадарак, у першую чаргу па лініі ўстанаўленьня неабходных агараджэньняў машын і палепшаньня санітарна-гігіенічных умоў на прадпрыемствах.

8. Асобную ўвагу зьвярнуць на пытаньні, зьвязаныя з арганізацыяй працы. З гэтай мэтай даручыць Белсельтрэсту:

а) распрацаваць пытаньне аб нармальнай і поўнай нагрузцы сталага штату рабочых на ўсе пэрыяды году;

б) устанавіць дакладны падлік работы савецкіх гаспадарак;

в) узмацніць удзел Белсельтрэсту ў арганізацыі і палепшаньні работы вытворчых камісій і нарад;

Далейшае падвышэньне заработнай платы шчыльна зьвязаць з ростам прадукцыйнасьці працы і гаспадарчым узмацьненьнем, больш шырэй ужываючы пад'ахвочваючыя формы аплаты працы (прэміраваньне зьдзельшчына); забясьпечыць сваечасовую выплату заработнай платы рабочым савецкіх гаспадарак. Для ліквідацыі запазычанасьці Белсельтрэсту выдзеліць з атрыманых сродкаў неабходную суму. Прыняць меры, каб савецкія гаспадаркі нараўне з іншымі галінамі народнае гаспадаркі атрымоўвалі доўгатэрміновыя крэдыты з фонду рабочага будаўніцтва.

9. Пацьвердзіць дырэктыву аб захаваньні і ўзмацненьні ўжо значна скарочанай за апошнія гады сеткі савецкіх гаспадарак і іх зямельнае плошчы, правесьці ў працягу 1927 г. канчатковае абмежаваньне ўсіх савецкіх гаспадарак, узяць курс на паступовае ўключэньне ў склад трэсту тых савецкіх гаспадарак, якія знаходзяцца ў веданьні іншых органаў, а таксама Н. К. Земляробства (апроч дасьледчых установ) у адпаведнасьці з фінансавым узмацненьнем і гаспадарчымі магчымасьцямі трэсту.

10. Паставіць у цэнтры ўвагі трэсту і Н. К. Земляробства пытаньне аб падрыхтоўцы, падборы і камплектаваньні кадраў кіраўнікоў савецкіх гаспадарак. Савецкія і прафэсіянальныя органы павінны даваць неабходную дапамогу для ўтварэньня кіруючых кадраў для савецкіх гаспадарак і правядзеньня сыстэматычнай працы па папаўненьню іх ўпаўне падрыхтаванымі працаўнікамі, у тым ліку вылучэнцамі сельска-гаспадарчых рабочых і работніц. Белсельтрэсту разам з Галоўнай Управай Прафэсіянальнае Асьветы і Саюзам распрацаваць пытаньне аб адчыненьні кароткатэрміновых

курсаў па перападрыхтоўцы кіраўнікоў савецкімі гаспадаркамі. Зьвярнуць увагу Народнага Камісарыяту Асьветы на неабходнасьць зьвярнуць С.-Г. Акадэміяй большую ўвагу на буйнае земляробства ў вучэбным пляне для падрыхтоўкі кадру працаўнікоў для савецкіх гаспадарак і калектыўных гаспадарак.

11. Адзначаючы налічча распрацаванага 5-ці гадовага пляну разьвіцьця савецкіх гаспадарак, неабходна больш цесная ўвязка гэтага пляну з плянам па разьвіцьцю сельскае гаспадаркі, асабліва ў акругах і раёнах, побач з узмацненьнем агрыкультурнага і аграномічнага абслугоўваньня савецкіх гаспадарак з боку зямельных органаў. Паставіць пытаньне перад дырэкцыяй Белсельтрэсту аб прыняцьці мер да паступовага складаньня арганізацыйных плянаў па ўсіх савецкіх гаспадарках, даючы ім дапамогу інструктарскімі сіламі.

12. Хутчэй праводзіць у жыцьцё пастановы Н. К. Рабоча-Сялянскай Інспэкцыі і Эканамічнае Нарады аб падліку і ліквідацыі будынкаў, якія ня могуць быць скарыстаны ў савецкіх гаспадарках, каб здабыць зваротныя сродкі на аднаўленьне і рамонт гаспадарча-неабходных будынкаў. Хутчэй правесьці падлік і рэалізацыю неліквідных фондаў.

13. Белсельтрэсту: а) зьвярнуць увагу на палепшаньне якаснага складу жывёлы, прывёўшы ў больш нармальныя суадносіны склад узростных груп, зьвярнуўшы асаблівую ўвагу на кармленьне і догляд жывёлы;

б) узмацніць догляд за садовай гаспадаркай, узяўшы курс на непасрэдную іх эксплёатацыю, шляхам разьвіцьця прадпрыемстваў па тэхнічнай перапраацоўцы сырцу;

в) устанавіць належны догляд за сенажацямі, імкнучыся да эксплёатацыі іх уласнымі сіламі. Пры неабходнасьці здачы асобных вучасткаў насяленьню, здаваць іх пры непасрэдным удзеле сялянскіх камітэтаў узаемадапамогі;

г) перагрупаваць годны мёртвы сельска-гаспадарчы інвэнтар па савецкіх гаспадарках у адпаведнасьці з патрэбамі гаспадаркі.

14. Белсельтрэсту прыняць больш рашучыя меры да спагнаньня запазычанасьці старых дэбітораў, не застанаўляючыся перад прад'яўленьнем судовых іскаў. У далейшым пры дачы крэдытаў строга кіравацца крэдытаздольнасьцю дэбітораў. Адпускаемыя сродкі на спэцыяльныя мэты па аднаўленьню савецкіх гаспадарак выдаткоўваць у плянавым парадку і ў строгай адпаведнасьці з іх прызначэньнем.

15. Прыняць меры да ўзмацненьня агрыкультурнай сельска-гаспадарчай дапамогі, якая даецца савецкімі гаспадаркамі сялянству. Гэта праца павінна весьціся ў плянавым парадку, узгодненым з плянам Н. К. Земляробства, не перашкаджаючы асноўнай працы савецкіх гаспадарак, пры чым усе віды дапамогі павінны быць аплачаны зямельнымі органамі на падставе адпаведных умоў.

16. Н. К. Земляробства і Белсельтрэсту прыняць меры да большай увязкі работ савецкіх гаспадарак з каапэрацыяй, як у галіне збыту прадукцыі насяленьню, так і ў галіне вытворчага каапэраваньня сялянскіх гаспадарак, навокал племянных гаспадарак і інш. прамысловых гаспадарак.

17. Узмацніць сувязь савецкіх гаспадарак з сялянствам у галіне агульнае культурнае працы ў вёсцы, для чаго:

а) ставіць справаздачы і даклады аб працы савецкіх гаспадарак на пленумах сельскіх саветаў, сельскіх і інш. масавых сялянскіх сходах;

б) устанавіць сталую сувязь з сялянамі—практыкамі і сельска-гаспадар. каапэрацыяй, удзел савецкіх гаспадарак у агранамічных саветах, раённых і акруговых агранамічных нарадах.

18. Узмацніць культурна-асьветную ролю савецкіх гаспадарак у вёсцы, імкнучыся да ператварэньня іх у культурныя месцы і ў арганізатараў грамадзкага жыцьця вёскі, для чаго:

а) палепшыць пастаноўку клюбнай працы ў савецкіх гаспадарках;

б) разам з Галоўпалітасьветы распрацаваць плян кінофікацыі савецкіх гаспадарак;

в) прыняць меры да нармальнага папаўненьня бібліатэк савецкіх гаспадарак;

г) сельска-гаспад. курсы, якія праводзяцца Н. К. Земляробства, пераважна праводзіць у савецкіх гаспадарках, імкнучыся да прыцягненьня сельска-гаспадарчых рабочых;

д) больш прыцягваць рабочых і работніц у працу, правадзімую сярод сялянства.

19. Для спрашчэньня рахункаводзтва лічыць неабходным ліквіданьне сыстэмы далейшай праверкі справаздачнасьці, зьвёўшы працу бухгальтэрыі трэсту да складаньня зводных балянсаў і інструктаваньня савецкіх гаспадарак. Для палепшаньня рахункаводзтва ў савецкіх гаспадарках неабходна спрашчэньне сыстэмы справаздачнасьці і палепшаньне складу рахунковых працаўнікоў.

20. Даручыць Народнаму Камісарыяту Земляробства забясьпечыць Белсельтрэст і інш. арганізацыі, якія маюць аднародныя прадпрыемствы, тарпянымі масывамі на прадмет пераводу іх на торпавы апал.

21. Прымаючы пад увагу цяжкае фінансавае становішча савецкіх гаспадарак, прасіць Савет Народных Камісараў БССР вызваліць Белсельтрэст ад узносу арэнднай платы за 1925-26 г. у суме 75.000 р.

За Старшыню Эканамічнае Нарады
пры Савеце Народных
Камісараў БССР **К. Бенэк.**

Адказны Сэкратар Эканамічнае
Нарады пры Савеце Народных
Камісараў БССР **В. Крывіцкі.**

25 красавіка 1927 г.
г. Менск.

---

## 3. Пастанова Эканамічнае Нарады пры Савеце Народных Камісараў БССР

АБ ПРЫНЯЦЬЦІ ПАЛАЖЭНЬНЯ ПА КІРАВАНЬНЮ САВЕЦКІМІ ГАСПАДАРКАМІ.

Заслухаўшы Палажэньне аб кіраваньні савецкімі гаспадаркамі Беларускага Дзяржаўнага Сельска-Гаспадарчага Трэсту, Эканамічная Нарада пастанаўляе прыняць яго ў наступнай рэдакцыі:

### І. Агульныя палажэньні.

1. Савецкія гаспадаркі рэспубліканскага значэньня, аб'яднаныя ў Белсельтрэст, знаходзяцца пад агульным кіраўніцтвам апошняга і існуюць на гаспадарчым разрахунку.

2. Асноўнымі задачамі савецкіх гаспадарак зьяўляюцца:

а) падняцьце прыбытковасьці гаспадаркі шляхам ужываньня палепшанай тэхнікі, палепшаньня мэтаду яе вядзеньня і абсталяваньня тэхнічных прадпрыемстваў па пераапрацоўцы сельска-гаспадарчых прадуктаў;

б) дапамагаць інтэсыфікацыі і індустрыялізацыі сялянскае гаспадаркі шляхам навочнага прыкладу большай прыбытковасьці вядзеньня буйнае гаспадаркі, чым дробнае, распаўсюджаньне сярод сялянства палепшанага насеннага і пасадачнага матар'ялу, прыцягваньне прадукцыі сельскае гаспадаркі для пераапрацоўкі на тэхнічных прадпрыемствах савецкае гаспадаркі, арганізацыі злучных, пракатных і зерняачышчальных пунктаў і рамонтных майстэрань, дапамога арганізацыі малочных арцеляй, кантрольных саюзаў і інш. відаў агрыкультурнай дапамогі. Правядзеньне гэтых агрыкультурных мерапрыемстваў не павінна парушаць прынцыпаў гаспадарчага разрахунку.

3. Савецкая гаспадарка мае штамп і пячатку па ўзору, устаноўленаму Белсельтрэстам на падставе існуючага законапалажэньня.

## II. Кіраваньне савецкімі гаспадаркамі.

4. На чале трэстыраванае савецкае гаспадаркі стаіць кіраўнік, назначаемы трэстам па ўзгадненьню з цэнтральным Праўленьнем Саюзу Сельска-гаспадарчых і Лясных рабочых. Кіраўнік вядзе працу на падставе гэтага палажэньня пад агульным кіраўніцтвам Белсельтресту і на падставе даверанасьці, выдаваемай апошнім.

5. Звальненьне і пераводы кіраўнікоў у другую гаспадарку робяцца непасрэдна трэстам па ўзгадненьні з Цэнтральным Праўленьнем Саюзу с.-г. і Лясных рабочых.

6. Кіраўніку савецкае гаспадаркі даецца поўная ініцыятыва і самастойнасьць гаспадарчай дзейнасьці, паводле зацьверджаных Белсельтрэстам вытворчага і фінансавага пляну. За сваю дзейнасьць ён нясе адказнасьць як у судовым, так і адміністрацыйным парадку.

7. У прыватнасьці кіраўнікам савецкімі гаспадаркамі даюцца наступныя правы:

а) збыт прадукцыі і дастаўка савецкай гаспадарцы неабходных матар'ялаў і сродкаў вытворчасьці, паводле арт. арт. 16 і 17 гэтага Палажэньня;

б) заключэньне ўмоў;

в) продаж маемасьці, атрыманьне пазыкі пад заклад прадукцыі;

г) выдача і дысконт вэксалёў; адкрыцьце бягучых рахункаў у крэдытных установах;

д) наём і звальненьне рабочых і служачых, паводле зацьверджанага каштарысу на вядзеньне гаспадаркі, існуючых законаў аб працы і ўмоў калектыўнага дагавору;

е) іск і адказ на судзе па справах савецкае гаспадаркі.

Аб'ём і абмежаваньне праў, адзначаных у гэтым артыкуле, вызначаюцца даверанасьцю, выдаваемей Белсельтрестам кожнаму кіраўніку:

На кіраўніка савецкае гаспадаркі ўскладаецца:

а) кіраваньне ўсімі галінамі гаспадаркі;

б) складаньне арганізацыйных, вытворчых і фінансавых пляноў на вядзеньне гаспадаркі, узгадненьне іх з Акруговым Зямельным Аддзелам і правядзеньне ў жыцьцё пасьля зацьверджаньня трэстам;

в) правядзеньне агрыкультурай працы, удзел у арганізацыі выставак, з узгадненьнем гэтай работы з раённымі выканаўчымі камітэтамі і акруговымі зямельнымі адзеламі;

г) устанаўленьне неабходнага штату рабочых і служачых, паводле вытворчага пляну, па ўзгадненьню з Саюзам;

д) арганізацыя рабочай сілы для рацыянальнага скарыстаньня рабочага дню і выкананьня норм выпрацоўкі;

е) устанаўленьне правіл унутранага парадку ў гаспадарцы, згодна існуючых палажэньняў; арганізацыя справаздачнасьці і падлік па формах, устаноўленых трэстам, і правільнае сваечасовае вядзеньне іх; дача ва ўстаноўлены тэрмін, па запатрабаваньню Белсельтрэсту, розных зьвестак; арганізацыя мерапрыемстваў па ахове працы, паводле Кодэксу Законаў аб Працы і калектыўнае ўмовы;

ж) дача справаздач аб работах савецкіх гаспадарак на нарадах, канфэрэнцыях і г. д.

9. Штогодны вытворчы і фінансавы пляны на вядзеньне гаспадаркі складаюцца па формах Белсельтрэсту і пасьля ўзгадненьня з акруговым зямельным аддзелам да 1-га лістапада перадаюцца ў Трэст на зацьверджаньне.

10. Савецкая гаспадарка вядзе скончаную справаздачнасьць і перадае яе ў трэст у тэрмін і па формах, устаноўленых апошнім.

11. Не пазьней 2-х месячнага тэрміну пасьля сканчэньня апэрацыйнага году кіраўнік савецкае гаспадаркі перадае ў Белсельтрэст на зацьверджаньне гадавую справаздачнасьць і балянс.

12. Выплата ўсіх відаў падаткаў, як існуючых, так і тых, якія могуць быць уведзены дадаткова, робіцца непасрэдна савецкай гаспадаркай ў фінансавыя органы, паводле існуючых законаў аб падатках і зборах.

13. Сумы, прысуджаныя па ўмовах і абавязацельствах, зробленых кіраўнікамі савецкіх гаспадарак, спаганяюцца ў першую чаргу з маемасьці, якая належыць да савецкай гаспадаркі, пры чым спагнаньне робіцца з той часткі савецкай гаспадаркі, якая можа адчужацца, паводле існуючых законаў.

14. Рэвізія савецкіх гаспадарак робіцца Рэвізійнай Камісіяй Народнага Камісарыяту Земляробства і інспэктарскім апаратам Белсельтрэсту.

15. Кантроль і нагляд за работай савецкіх гаспадарак мясцовымі органамі ўлады ажыцьцяўляецца паводле Палажэньня аб Акруговых Выканаўчых Камітэтах і Раённых Выканаўчых Камітэтах і ўзаемаадносінах утрымаўцаў савецкіх гаспадарак з мясцовымі органамі ўлады.

## III. Рэалізацыя прадуктаў і набыцьцё матар'ялаў.

16. Кіраўнік савецкай гаспадаркі мае права самастойна рэалізаваць прадукцыю савецкай гаспадаркі, пры чым парадак рэалізацыі як на рынках БССР, так і за яе межамі—устанаўляецца загадзя кіраўніком савецкай гаспадаркі разам з трэстам.

17. Матар'ялы і сродкі вытворчасьці, патрэбныя для савецкай гаспадаркі, кіраўнік савецкай гаспадаркі мае права набываць самастойна толькі тыя, якія ёсьць на мясцовых рынках, паводле зацьверджаных вытворчых і фінансавых плянаў савецкай гаспадаркі; набыцьцё матар'ялаў, прылад, якіх няма на рынках БССР, робіцца непасрэдна трэстам.

18. У разьвіцьцё гэтага палажэньня Белсельтрэсту даецца права выдаваць інструкцыі, якія павінны зацьвярджацца Народным Камісарыятам Земляробства.

За Старшыню Эканамічнае Нарады пры Савеце Народных Камісараў БССР **К. Бенэк.**

Адказны Сэкратар Эканамічнае Нарады пры СНК БССР **В. Крывіцкі.**

25 Красавіка 1927 г.
г. Менск.

---

Зацьверджана пастановай Прэзыдыуму ЦВК БССР за 14 красавіка 1927 году.

## 4. Інструкцыя Народнага Камісарыяту Ўнутраных Спраў і Народнага Камісарыяту Юстыцыі БССР

### АБ ПАРАДКУ ДАЧЫ ВОДПУСКАЎ З МЕСЦ ЗЬНЯВОЛЕНЬНЯ НА ПАЛЯВЫЯ РАБОТЫ ТЭРМІНОВА-ЗЬНЯВОЛЕНЫМ СЯЛЯНАМ.

*Акруговым разьмеркавальным камісіям пры Папраўчых Дамох.*

Прэзыдыумам Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту БССР 24-га сакавіка 1927 году прынята пастанова аб дачы водпускаў з месц зьняволеньня на палявыя работы тэрмінова-зьняволеным сялянам. На падставе гэтай пастановы Прэзыдыуму ЦВК і ў разьвіцьцё ўвагі 2-ой арт. 53-га Папраўча-Працоўнага Кодэксу Народны Камісарыят Унутраных Спраў і Народны Камісарыят Юстыцыі прапануюць прыняць да тэрміновага выкананьня наступнае:

1. Водпуск на палявыя работы на тэрмін да 3-х месяцаў можа быць дадзен тэрмінова-зьняволеным сялянам-працоўным землякарыстальнікам толькі пры наступных 2-х умовах:

а) калі злачынства ўтворана ў першы раз;

б) калі можна быць упэўненым, што зьняволены не ўцячэ ад кары.

2. Водпуск ня можа быць дадзены тым тэрмінова-зьняволеным сялянам, якія асуджаны за злачынствы, прадугледжаныя артыкуламі Крымінальнага Кодэксу: 58, 59, 60, 61, 62, 63, 64, 65, 66, 67, 69, 70, 71, 72, 73, 74, 76, 77, 78, 1 і 2 ч. 80, 2 ч. 86, 169, 2 ч. 176, 113, 141, 180 п. „в“, 184, 197, 142 і 2 ч. 149.

Таксама водпуск не даецца ў першы год зьняволеньня сялянам, асуджаным за іншыя злачынствы на тэрмін ня менш 5-ці год.

3. Пры вырашэньні пытаньня аб дачы водпуску таму ці іншаму зьняволенаму трэба браць пад увагу тыя выпадкі, калі характар злачынства, за які асуджан зьняволены, выклікае незадаволеньне мясцовага насяленьня.

4. Пры аддаленасьці месца знаходжаньня гаспадаркі тэрмінова-зьняволенага селяніна ад таго месца зьняволеньня, дзё ён трымаецца, дача яму водпуску павінна быць абумоўлена таксама магчымасьцю своечасовага і належнага скарыстаньня ім гэтага водпуску іменна для палявых работ.

5. Водпуск чырвонаармейцам і чырвонафлётцам з сялян-працоўных землякарыстальнікаў, якія адбываюць у мясцох зняволеньня тэрміновае пазбаўленьне волі, можа давацца толькі тады, калі будуць

захаваны вышэйпамянёныя ўмовы, у паасобку ўмовы, якія тычацца аддаленасьці гаспадаркі зьняволенага ад месца зьняволеньня (п. 4) і ў тым толькі выпадку, калі равесьнікі іх зволены ўжо ад службы ў Чырвонай Арміі і Флёце ў бестэрміновы водпуск.

6. Належнасьць зьняволенага да працоўнага сельска-гаспадарчага насяленьня даннай мясцовасьці і сапраўдная патрэба водпуску яго для гаспадаркі павінна быць пасьведчана мясцовым сельскім саветам або раённым выканаўчым камітэтам, пры чым у выдаваемых імі пасьведчаньнях павінны паказвацца: а) зьвесткі аб колькасьці ў гаспадарцы зьняволенага зямлі, жывёлы, едакоў і працаздольных членаў сям'і; б) паказаньне на тое, што зьняволены да пазбаўленьня яго волі прымаў фактычны ўдзел у сельска-гаспадарчых работах свайго двара і в) агульны вывад сельскага савету або раённага выканаўчага камітэту аб патрэбе дачы зьняволенаму водпуску.

7. Пытаньне аб дачы водпуску тэрмінова-зьняволеным сялянам падымаецца па хадайніцтвах саміх зьняволеных і членаў іх сямей з далучэньнем памянёных у п. 6 пасьведчаньняў. У выпадку адсутнасьці гэтых пасьведчаньняў, акруговыя разьмяркавальныя камісіі беспасрэдна патрабуюць іх ад адпаведных раённых выканаўчых камітэтаў і сельскіх саветаў.

8. Паказаныя у п. 7-ым пытаньні папярэдня вырашаюцца Наглядальнымі Камісіямі і падаюцца імі са усімі патрэбнымі матар'яламі на канчатковае вырашэньне акруговай Разьмеркавальнай Камісіі.

Народны Камісар Унутраных Спраў БССР **А. Сташэўскі.**

Народны Камісар Юстыцыі БССР **М. Сегаль.**

Начальнік Кіраўніцтва Месц Зьняволеньня
НКУС БССР **С. Якубчык.**

23 красавіка 1927 г.
№ 87.

---

## 5. Абежнік Адміністрацыйнае Ўправы Народнага Камісарыяту Ўнутраных Спраў БССР

АБ ПАРАДКУ ВЯДЗЕНЬНЯ КНІГ ЗАГС'У і ЗАПАЎНЕНЬЯ КАРТАК ПА ЗАГС'У.

*Начальнікам Адміністрацыйных Аддзелаў Акруговых Выканаўчых Камітэтаў, раённым выканаўчым камітэтам і сельскім саветам.*

Заўважана, што другія экзэмпляры картак ЗАГС, якія, паводле абежніку Народнага Камісарыяту Унутраных Спраў за 6-га студзеня 1927 г. № 2 (зьмешчанага ў „Бюлетэні СНК БССР“ № 2—1927 г.) зьяўляюцца як архіўнымі дакумэнтамі, так і матар'ялам для распрацоўкі зьвестак аб натуральным руху насяленьня, запаўняюцца органамі ЗАГС вельмі неакуратна. Есьць шмат картак без штампаў і даты запаўненьня карткі, а таксама не падкрэсьліваецца нацыянальнасьць і не адзначаюцца зьвесткі па іншых пытаньнях.

На падставе вышейсказанага прапануецца строга кіравацца інструкцыяй Народнага Камісарыяту Унутраных Спраў за 29/XII—1926 г. № 339 аб вядзеньні і запаўненьні актавых кніг і пасьведчаньняў па новых формах, прычым асаблівую ўвагу зварочваць на наступнае:

1) штамп ставіць так, каб можна было разабраць назву органу ЗАГС, а таксама азначаць месяц і дзень запісу акту;

2) у пунктах 5, 7, 8 і 9 усіх картак падкрэсьліваць тое пытаньне, на якое выпадае належны адказ;

3) у пункце 6 картак аб шлюбе і сьмерці належныя пытаньні падкрэсьліваць, а ў картах аб нараджэньні і скасаваньні шлюбу адказы дапісваць паводле тлумачэньняў вышэйпамянёнай інструкцыі Народнага Камісарыяту Ўнутраных Спраў № 339;

4) дакладна запаўняць п. 10 ўсіх картак і, апроч назвы сяленьня азначаць сельскі савет, раён і акругу;

5) у п. 11 картгкі аб скасаваньні шлюбу абавязкова пісаць, як касуецца шлюб: па ўзаемнай згодзе, альбо па заяве мужа ці па заяве жонкі (з азначэньнем прозьвішча і імя заявіцеля);

6) на кожнай картцы павінен быць належны подпіс.

Праверка дакладнасьці запаўненьня другіх экзэпляраў картак ЗАГС ускладаецца на раённыя частка запісаў актаў грамядзянскага стану і адначасова і на раённага статыстыка.

У выпадках, калі пры праверцы ў картках будуць заўважаны недахопы, то раённыя часткі запісаў актаў грамадзянскага стану павінны адразу зварочваць картку для выпраўленьня ў сельскі савет.

Нач. Адміністрацыйнае Ўправы Народнага
Камісарыяту Ўнутранных Спраў БССР **Я. Кроль**.

18-га мая 1927 г.
№ 1.

---

Зацьвярджаю.
Народны Камісар Унутраных
Спраў БССР А. Сташэўскі.
23 мая 1927 г.

## 6. Тыповы дагавор аб праве забудоўкі вольнага зямельнага вучастку.

1. ............................ Камунальны Аддзел (альбо замяняючы яго орган) аддае забудоўшчыку на праве забудоўкі на ________ ............ гадоў, лічачы з ............................ г. ................ да ........ ............ г., зямельны вучастак, які знаходзіцца па ................ вуліцы, у межах, паводле даданага пляну, агульнай плошчай ______ ............................ кв. мэтр.

2. На паказаным у п. 1-м гэтага дагавору зямельным вучастку забудоўшчык павінен пабудаваць з дабраякаснага матар'ялу, паводле зацьверджанага на агульных падставах праэкту, ніжэйпамянёныя будынкі са ўсімі неабходнымі службамі:

а) з ............................ (паказаць з якога матар'ялу) дом з ............................ паверхамі (паказаць колькі паверхаў) з жылой плошчай ня менш ............................ кв. мэтр., гандлёва-складачнай

плошчай.................кв. мэтр., а усяго, уключаючы службовую плошчу,..................кв. мэтр;

б) з.............................(паказаць з якога матар'ялу)
..........................флігель з......................паверхамі (паказаць колькі паверхаў) з жылой плошчай ня менш......................кв. мэтр., гандлёва-складачнай плошчаі....................кв. мэтр., а ўсяго ўключаючы службовую плошчу.........................кв. мэтр.

3. Пабудову жылых будынкаў забудоўшчык павінен пачаць не пазьней, як праз устаноўлены законам тэрмін (увага 1 да арт. 73 Гр. Код.) пасьля заключэньня гэтага дагавору, г. зн. не пазьней.......................году, і весьці работы з такім падрахункам, каб усе будынкі былі пабудаваны да.........................году (увага 1 да арт. 73 Гр. Код.).

4. Калі пабудова будынку ня будзе скончана забудоўшчыкам у тэрмін, які паказан у п. 3 гэтага дагавору, з прычын, незалежных ад самога забудоўшчыка, тэрмін сканчэньня пабудовы павінен быць зьменян Камунальным Аддзелам (альбо замяняючым яго органам) і забудоўшчык абавязан скончыць пабудову будынкаў ў новы тэрмін.

5. Будынкі павінны будавацца і скарыстоўвацца паводле будаўніча-тэхнічных норм, супроцьпажарных і санітарных правіл і мясцовых абавязковых пастаноў па гэтых пытаньнях.

6. Калі выявіцца адхіленьне ад умоў, паказаных у п. п. 2 і 5 гэтага дагавору, забудоўшчык павінен зрабіць у будынках за свой кошт адпаведныя зьмены і выпраўленьні паводле гэтага дагавору і паказаньняў тэхнічна-будаўнічага і санітарнага нагляду ў вызначаныя гэтым наглядам і са згоды Камунальнага Аддзелу тэрміны (гл. п. „д“ арт. 15 інструкцыі НКУС і НКЮ за 3/II—1927 г.).

7. Забудоўшчык абавязан усе будынкі, якія знаходзяцца на вучастку, страхаваць у Беларускіх страхавых установах на свой кошт і на свае імя. Страхаваньне робіцца ня ніжэй ацэнкі, зробленай Дзяржстрахам. Забудоўшчык абавязан сваечасова аднаўляць страхаваньне, а таксама сваечасова страхаваць усе новыя пабудаваныя часткі будынкаў, пільнаваць тэрміны пры ўнясеньні страхавых плацяжоў і атрыманьні пажарнай узнагароды і, наогул, дакладна выконваць усе правілы і полісныя ўмовы страхаваньня. Калі забудоўшчык адмовіцца страхаваць будынкі, Камунальны Аддзел мае права страхаваць іх за кошт забудоўшчыка.

8. Калі які-небудзь будынак або частка яго будзе зьнішчаны агнём, забудоўшчык абавязан у бліжэйшы будоўны сэзон пачаць адбудову згарэўшага будынку ў ранейшым відзе, альбо паводле новага, са згоды Камунальнага Аддзелу, проэкту, зацьверджанага ўстаноўленым парадкам. Адбудова будынку павінна быць скончана ў тэрмін, які ўстанаўляецца па згодзе з Камунальным Адзелам.

9. На працягу тэрміну права забудоўкі забудоўшчык абавязан рабіць як бягучы, таксама і капітальны рамонт будынкаў, пабудаваных на вучастку.

10. За карыстаньне зямельным вучасткам з забудоўшчыка спаганяецца арэндная плата ў суме.........................., якая павінна ўносіцца гадовымі ўзносамі ў.....................................................тэрмін.

*Увага.* Пры ўстанаўленьні арэнднай платы належыць кіравацца пастановай ЦВК і СНК БССР (З. З. БССР 1927 г. № 10, арт. 36).

11. Калі арэндная плата, устаноўленая п. 10 гэтага дагавору, ня будзе ўнесена ў вызначаны п. 10 тэрмін, то, пасьля сканчэньня 15-ці дзён, прылічаецца пеня ў разьмеры ня звыш устаноўленай для несваечасовага ўзносу зямельнай рэнты.

12. Выкананьне ўсіх законаў, пастаноў і распараджэньняў цэнтральнай і мясцовай улады, датычных памянутага ў гэтым дагаворы вучастку і пабудаваных на ім будынкаў, а таксама тэхнічных, супроцьпажарных і санітарных правіл, правіл па ўпарадкаваньні і ўтрыманьні ўладаньня ляжыць на абавязку забудоўшчыка.

13. Забудоўшчык абавязан плаціць усе падаючыя на права забудоўкі агульнадзяржаўныя і мясцовыя падаткі і зборы. Зямельная рэнта спаганяецца з забудоўшчыка ў складзе арэнднай платы. Усе льготы устанаўляюцца ў разьмерах, вызначаных саюзным і беларускім законадаўствам.

14. Для будынкаў, будуемых на здадзеным пад забудоўку вучастку, і для іх гаспадарчага абслугоўваньня, але не для продажу на старану, альбо іншага скарыстаньня, забудоўшчыку даецца права карыстаньня будоўнымі матар'ямі, якія знаходзяцца і здабываюцца на гэтым вучастку, але з тым, каб месцы здабываньня гэтых матар'ялаў належным парадкам пляніраваліся па меры скарыстаньня.

15. Забудоўшчыку даецца права будаваць на здадзеным яму зямельным вучастку дадатковыя жылыя і няжылыя будынкі, не памянёныя ў гэтым дагаворы, па праэктах, зацьверджаных ва ўстаноўленым парадку на агульных падставах. Будаваць будынкі гандлёвага альбо складачнага характару, не прадугледжаныя ў гэтым дагаворы, дазваляецца ня іначай, як з дадатковай згоды Камунальнага Аддзелу.

16. Па сканчэньні тэрміну дзейнасьці гэтага дагавору здадзены для забудоўкі зямельны вучастак са ўсімі пабудаванымі на ім жылымі і няжылымі будынкамі, агароджамі, зялёнымі насадкамі, са ўсімі вадаправоднымі, каналізацыйнымі і электрычнымі пабудовамі, калі такія маюцца на тым вучастку, і наогул са ўсімі ўдасканаленьнямі, якія належаць да зямельнага вучастку альбо будынку, пераходзяць да Камунальнага Аддзелу. Перадаваемыя Камунальнаму Аддзелу будынкі павінны быць у спраўнасьці.

17. Калі, паводле п. 16 гэтага дагавору, зямельны вучастак і будынкі, якія знаходзяцца на ім, пераходзяць да Камунальнага Аддзелу, апошні павінен сплаціць забудоўшчыку сапраўдны кошт будынкаў у час здачы з залікам даўгоў, якія прылічаюцца з забудоўшчыка Камунальнаму Аддзелу. Калі будзе адпаведнае патрабаваньне, Камунальны Аддзел абавязан перадаць суму одкупу, якая прылічаецца за будынкі, судоваму выканаўцы для здавальненьня заставадзяржаўцы. Кошт будынкаў устанаўляецца ў прысутнасьці забудоўшчыка, альбо яго прадстаўніка асобнай ацэначнай камісіяй з прадстаўнікоў Камунальнага Аддзелу і будаўніча-тэхнічнага нагляду.

18. Калі забудоўшчык не згаджаецца з ацэнкай камісіі, прадугледжанай п. 17 гэтага дагавору, ён мае права падаць скаргу ў суд.

19. У выпадку нарушэньня п. п. 2, 3, 7, 8, 9 дагавору устанаўлаецца няўстойка, у разьмеры, не перавышаючым устаноўленай для такіх выпадкаў інструкцыяй Н. К. Унутраных Спраў і Н. К. Юстыцыі.

20. Усе спрэчкі, якія могуць узьнікнуць па гэтаму дагавору, выращаюцца судовымі установамі гораду ______

Юрыдычны адрас забудоўшчыка ______

______

Усе паведамленьні і абвяшчэньні, якія будуць дастаўлены па паказанаму ў гэтым пункце дагавору юрыдычнаму адрасу забудоўшчыка, лічацца законна-паданнымі і яму вядомымі. Аб зьмене свайго адрасу забудоўшчык абавязан пісьмова паведаміць Камунальны Аддзел ў тыднёвы тэрмін.

21. Аплата гэтага дагавору гэрбавым, натарыяльным і іншымі зборамі робіцца забудоўшчыкам.

22. Стораны маюць права ўключаць у дагавор і непрадугледжаныя тыповым дагаворам, непярэчачыя закону ўмовы, як напрыклад: абавязаць забудоўшчыка засадзіць плошчу вучастку зяленымі насадкамі, зрабіць тратуары, прадастаўленьне права забудоўшчыку адчужыць часьць вучастку і г. д. Пры прадастаўленьні права адчужыць альбо залажыць часьць вучастку неабходна паказаць на абавязковасьць узгадненьня з Камунальным Аддзелам і пацьверджаньня проэкту выдзелу будаўніча-тэхнічным наглядам.

---

Зацьвярджаю.
Народны Камісар Унутраных
Спраў БССР А. Сташэўскі.
23 мая 1927 г.

## 7. Тыповы дагавор аб праве забудоўкі зямельнага вучастку з разбуранымі альбо недабудаванымі будынкамі.

1. ______ Камунальны Аддзел (альбо замяняючы яго орган) аддае забудоўшчыку на праве забудоўкі на ______ гадоў лічачы з ______ г. да ______ г., зямельны вучастак, які знаходзіцца па ______ вул., у межах, паводле. даданага пляну, агульнай плошчай ______ кв. мэтр. На гэтым вучастку аддаюцца таксама і будынкі жылыя і нежылыя, якія зазначаны на пляне пад літарамі ______ (трэба пералічыць усе будынкі па літарах пляну, напр.: пад літ. А—мураваны дом з 2-мя паверхамі, Б—драўляны дом ў двары, В—мураваны склеп і г. д.)

2. Пералічаныя ў п. 1-м гэтага дагавору будынкі перадаюцца Камунальным Аддзелам забудоўшчыку па асобнаму акту, у якім паказваюцца: а) апісаньне будынку ў час перадачы яго забудоўшчыку; б) ацэнка кожнага будынку ў паасобку; в) пералік неабходных работ па адбудове, альбо дабудове будынкаў і г) каштоўнасьць работ у

процантавай адносіне да кошту ўсіх будынкаў. З часу передачы будынкаў забудоўшчыку на яго ўскладаецца абавязак ахоўваць іх за свой кошт. Акт перадачы будынкаў дадаецца да гэтага дагавору.

3. На паказаным у п. 1-м гэтага дагавору зямельным вучастку забудоўшчык павінен зрабіць усе пералічаныя ў акце перадачы работы па адбудове (надбудове, дабудове) будынкаў і апроч таго пабудаваць будынкі пералічаныя ніжэй:

а) з ______________ матар'ялу з ______________ паверхамі, з жылой плошчай ня менш ______________ кв. мэтраў, гандлёва-складачнай плошчай ______________ кв. мэтр., а ўсяго ўключаючы і службовую плошчу ______________ кв. мэтр.

б) ______________

4. Адбудову (надбудову, пабудову) жылых будынкаў забудоўшчык павінен пачаць не пазьней, як праз устаноўлены законам тэрмін (увага 1 да арт. 73 Гр. Код.) пасьля заключэньня гэтага дагавору, г. зн. не пазьней ______________ году і вясьці работы з такім падрахункам, каб усе будынкі былі адбудаваны (надбудаваны, пабудаваны) да ______________ году (увага 1 да арт. 73 Гр. Код.).

5. Усе будоўныя работы павінны быць зроблены забудоўшчыкам з дабраякасных матар'ялаў ва ўсім паводле зацьверджанага ўстаноўленым парадкам праэкту пабудовы, будаўніча-тэхнічных, санітарных і супроцьпажарных правіл і патрабаваньняў абавязковых пастаноў мясцовае ўлады па гэтых пытаньнях.

6. Калі адбудова (надбудова, пабудова) будынкаў ня будзе скончана забудоўшчыкам у тэрмін, які паказан у п. 4 гэтага дагавору, з прычын, незалежных ад самога забудоўшчыка, тэрмін сканчэньня работ павінен быць зьменен Камунальным Аддзелам (альбо замяняючым яго органам ) і забудоўшчык абавязан скончыць будынкі у новы тэрмін.

7. Калі выявіцца адступленьне ад умоў, паказаных у п. п. 3 і 5 гэтага дагавору, забудоўшчык абавязан зрабіць у будынках за свой кошт адпаведныя зьмены і выпраўленьні паводле гэтага дагавору і паказаньняў тэхнічна-будаўнічага і санітарнага нагляду ў вызначаныя гэтым наглядам і са згоды Камунальнага Аддзелу тэрміны (гл. п. „д" арт. 15 інструкцыі Н. К. Унутраных Спраў і Н. К. Юстыцыі за 3/II—1927 г).

8. Як і п. 7 Тыповага дагавору аб праве забудоўкі вольнага зямельнага вучастку (надрукаван вышэй, на стар. 17).

9. Як і п. 8 таго-ж дагавору.

10. Як і п. 9 таго-ж дагавору.

11. Як і п. 10 таго-ж дагавору.

12. Калі арэндная плата ўстаноўленая п. 11 гэтага дагавору ня будзе ўнесена ў вызначаны п. 11 тэрмін, тады пасьля пропуску 15-ці дзен, налічваецца пеня ў разьмеры ня звыш устаноўленае для несваечасовага ўзносу зямельнай рэнты.

13. Як і п. 12 тыповага дагавару аб праве забудоўкі вольнага зямельнага вучастку (надрукаван вышэй. на стар. 17).

14. Як і п. 13 таго-ж дагавору.
15. Як і п. 14 таго-ж дагавору.
16. Як і п. 15 таго-ж дагавору.
17. Як і п. 16 таго-ж дагавору.

18. Калі, паводле п. 17 гэтага дагавору зямельны вучастак і будынкі, якія на ім ёсьць, пераходзяць да Камунальнага Аддзелу, апошні павінен сплаціць забудоўшчыку сапраўдны кошт будынкаў у час здачы з залікам даўгоў, якія прылічаюцца з забудоўшчыка Камунальнаму Аддзелу. Калі будзе адпаведнае патрабаваньне, Камунальны Аддзел абавязан перадаць суму одкупу, якая прылічаецца за будынкі, судоваму выканаўцы для здавальненьня заставадзяржаўцы. Кошт будынкаў устанаўляецца у прысутнасьці забудоўшчыка альбо яго прадстаўніка асобнай ацэначнай камісіяй з прадстаўнікоў Камунальнага Аддзелу і будаўніча-тэхнічнага нагляду.

19. Калі забудоўшчык не згаджаецца з ацэнкай камісіі, прадугледжанай п. 18 гэтага дагавору, ён мае права падаць скаргу ў суд.

20. У выпадку парушэньня п. п. 3, 4, 8, 9 і 10 дагавору ўстанаўляецца няўстойка ў разьмеры, не перавышаючым устаноўленых норм для гэтых выпадкаў інструкцыяй Н. К. Унутраных Спраў і Н. К. Юстыцыі.

21. Як і п. 20 Тыповага дагавору аб забудоўцы вольнага зямельнага вучастку (надрукаван вышэй, на стар. 17).
22. Як і п. 21 таго-ж дагавору.
23. Як і п. 22 таго-ж дагавору.

---

## 8. Абежнік Народнага Камісарыяту Юстыцыі і Народнага Камісарыяту Працы БССР

АБ НЕДАПУШЧАЛЬНАСЬЦІ ПЕРАГЛЯДУ Ў СУДОХ СПРЭЧАК, ВЫРАШАНЫХ РАСЦЭНАЧНА-КАНФЛІКТНЫМІ КАМІСІЯМІ, МІРАВЫМІ КАМЭРАМІ АБО КАМІСІЯМІ І ПАСРЭДНІЦКІМІ СУДАМІ.

*Народным судом, асобным сэсіям па працоўных справах, акруговым Камэрам (Аддзелам) Працы.*

У зьвязку з тым, што асобныя сэсіі па працоўных справах часта разглядаюць справы, якія ўжо вырашаны ў Расцэначна-Канфліктных Камісіях, Міравых Камэрах або Камісіях і пасрэдніцкіх судох, Народны Камісарыят Юстыцыі і Народны Камісарыят Працы БССР пастанаўляюць:

1. Паводле арт. 173 Кодэксу Законаў аб Працы, пастановы Расцэначна-Канфліктных Камісій і Пасрэдніцкіх судоў і рашэньні Міравых Камэр або Камісій ня могуць быць абскарджаны. Такім чынам, калі пастанова Расцэначна-Канфліктнай Камісіі або Пасрэдніцкага суду і рашэньне Міравой Камэры або Камісіі не скасаваны ў парадку нагляду ўстановамі Народнага Камісарыяту Працы, гэтыя пастановы і рашэньні застаюцца абавязковымі для ўдзельнікаў справы і для ўсіх устаноў, у тым ліку і для судоў. Для гэтага спрэчкі, вырашаныя Расцэначна-Канфліктнымі Камісіямі, Міравымі Камэрамі і Пасрэдніцкімі судамі ня могуць пераглядацца ў судох, бо яны развязаны паўнаважнымі ўстановамі.

2. На падставе вышэй сказнага ні працоўныя сэсіі, ні іншыя судовыя ўстановы ня могуць разглядаць спрэчак, якія разьвязаны Расцэначна--Канфліктнымі Камісіямі, Міравымі Камэрамі або Камісіямі і Пасрэдніцкімі судамі, бо гэтыя апошнія не падлеглы судовым установам.

Народны Камісар Юстыцыі БССР і
Пракурор Рэспублікі **М. Сегаль.**

Народны Камісар Працы БССР **К. Бенэк.**

4 мая 1927 г.
№ 61.

---

## 9. Пастанова Народнага Камісарыяту Працы БССР

### АБ АБАВЯЗКОВАЙ РЭГІСТРАЦЫІ ПРАДПРЫЕМСТВАЎ, ЯКІЯ ПАДЛЯГАЮЦЬ НАГЛЯДУ ПА ТЭХНІЦЫ БЯСЬПЕЧНАСЬЦІ.

На падставе правіл, зацьверджаных Народным Камісарыятам Працы і Народным Камісарыятам Грашовых Спраў СССР за 5-га лютага 1927 г. „Аб парадку спагнаньня збораў на пакрыцьцё выдаткаў па нагляду за паравымі катламі і за тэхнікаю бясьпечнасьці („Известия НКТ СССР“ 1927 г. № 6—7), Народны Камісарыят Працы БССР пастанаўляе:

1. Абавязаць усе прамысловыя прадпрыемствы і ўстановы ў тыднёвы з дню апублікаваньня гэтае пастановы тэрмін падаць у Інспэкцыю (Аддзел) працы па месцы знаходжаньня прадпрыемства альбо установы зьвесткі па наступнай форме:
   а) назва ўласьніка (імя, імя па бацьку, прозьвішча, ці назва трэсту альбо аб'яднаньня);
   б) назва прадпрыемства альбо ўстановы;
   в) месца знаходжаньня і паштовы адрас;
   г) працуе прадпрыемства з рухавіком, ці без рухавіка;
   д) колькасьць рабочых на 15 красавіка 1927 г.

2. Адначасова прадпрыемствы, установы і асобы, якія маюць у сваіх прадпрыемствах паравыя котлы, устаноўкі, прылады, якія працуюць пад націсканьнем звыш аднэй атмосфэры і пад'ёмныя мэханізмы, да гэтага часу не зарэгістраваныя паводле пастановы Эканамічнае Нарады БССР за 20 лютага 1926 году (Збор Законаў і Загадаў БССР 1926 г. № 13, арт. 52) павінны ў тэрмін, паказаны у арт. 1 гэтае пастановы, зарэгістраваць іх.

3. Нагляд за выкананьнем гэтае пастановы ўскладаецца на мясцовыя органы Народнага Камісарыяту Працы.

4. За невыкананьне гэтае пастановы вінаватыя будуць прыцягвацца да судовай і адміністрацыйнай адказнасьці.

Вык. аб. Народнага Камісара Працы БССР **Р. Алесін.**

Заг. Аддзелу Аховы Працы НКП БССР **Н. Калінін.**

13 красавіка 1927 г.
№ 54.

---

## 10. Наказ Народнага Камісарыяту Асьветы і Цэнтральнага Праўленьня Саюзу Працаўнікоў Асьветы БССР

### АБ ПАРАДКУ ПРЫЁМУ І ЗВАЛЬНЕНЬНЯ ПЭДАГАГІЧНАГА ПЭРСАНАЛУ ТЭХНІКУМАЎ БССР.

1. Устанавіць ніжэйпаказаны парадак прыёму і звальненьня Народным Камісарыятам Асьветы БССР дырэктароў, загадчыкаў навучальнае часткі, настаўнікаў, лябарантаў і загадчыкаў навучальна-дапамагальных устаноў усіх тэхнікумаў.

2. Народны Камісарыят Асьветы замяшчае вольныя пасады, пералічаныя ў арт. 1-м, шляхам: а) высоўваньня кандыдатур саветамі тэхнікумаў, дырэктарамі (у адносінах загадчыкаў навучальнае часткі, настаўнікаў, лябарантаў і загадчыкаў навучальна-дапамагальных устаноў), выканаўчымі камітэтамі, аддзеламі народнае асьветы і адпаведнымі прафэсіянальнымі саюзамі; б) падбору з ліку кандыдатаў, якія вядомы Народнаму Камісарыяту Асьветы; в) пераводу на пасады больш адказныя ці з больш складанымі абавязкамі працаўнікоў, якія выконвалі да гэтага менш складаныя і адказныя абавязкі і наадварот, пры чым перавод працаўніка на пасады больш адказныя ці з больш складанымі абавязкамі можа адбывацца толькі са згоды гэтага працаўніка; г) конкурсу.

Усе прызначэньні пералічаных у арт. 1 працаўнікоў павінны
узгоднены з адпаведнымі прафэсіянальнымі саюзамі.

быць3. Галоўная Ўправа Праф--Тэхн. Асьветы, вызначаючы адзін або некалькі спосабаў, пералічаных у арт. 2-м, разглядае ўсе кандыдатуры, якія паступаюць да яе, намячае адпаведных працаўнікоў на пасады і ўносіць іх на зацьверджаньне Калегіі Народнага Камісарыяту Асьветы, або на зацьверджаньне Народнага Камісара, якія выдаюць аб гэтым пастанову.

У адпаведнасьці з арт. 47 Код. Зак. аб Працы звальненьне з пералічаных у арт. 1-м пасад адбываецца:

а) у выпадках зачыненьня тэхнікумаў, або скарачэньня пасады,

б) па няпрыгоднасьці да выкананьня абавязкаў поўнай або частковай;

в) у выпадку сыстэматычнага невыпаўненьня бяз уважлівых прычын абавязкаў;

г) у выпадках учыненьня злачынства, непасрэдна зьвязанага з працай і ўстаноўленага ўступіўшай у сілу пастановай суду, а таксама ў выпадку знахаджэньня пад арыштам звыш 2-х месяцаў;

д) па прычыне няўкі бяз уважлівых прычын на працу, больш трох дзён разам, або агулам шасьці дзён у месяц;

е) у выпадку незьяўленьня на працу з прычыны часовай непрацаздольнасьці пасьля 2-х месяцаў з дню страты працаздольнасьці, а ў выпадку часовай непрацаздольнасьці з прычыны цяжарнасьці пасьля 2-х месяцаў звыш паложанага 3-х месячнага тэрміну;

ж) паводле асабістага жаданьня;

Усе пералічаныя ў арт. 1 працаўнікі звальняюцца Народным Камісарыятам Асьветы, як па свайму погляду, так і па ініцыятыве асэб і ўстаноў паводле арт. 8 гэтае пастановы.

6. Ініцыятыва ўзьняцьця пытаньня аб звальненьні дырэктароў тэхнікумаў належыць выканаўчым камітэтам, аддзелам народнае асьветы, саветам тэхнікумаў і адпаведным прафэсіянальным саюзам.

У адносінах іншых працаўнікоў тэхнікумаў, пералічаных у арт. 1, ініцыятыва падняцьця пытаньня аб звальненьні, апрача ўстаноў і арганізацый, пералічаных вышэй, належыць і дырэктаром тэхнікумаў.

*Увага.* Заявы аб звальненьні паводле гэтага артыкулу падаюцца ў Народны Камісарыят Асьветы або ў аддзел народнае асьветы Акруговага Выканаўчага Камітэту, пры чым апошні ўсе матар'ялы са сваім заключэньнем накіроўвае ў Народны Камісарыят Асьветы па лініі Галоўнай Управы Прафэсіянальна-Тэхнічнай Асьветы.

7. Галоўная Управа Прафтэхнічнае Асьветы разглядае прадстаўленьне аб звальненьні працаўнікоў і ў выпадку неабходнасьці, праэкт матываванай пастановы аб звальненьні ўносіць на зацьвярджаньне Калегіі Народнага Камісарыяту Асьветы або Народнага Камісара Асьветы.

8. Няпрыгоднасьць працаўніка вызначаецца Народным Камісарыятам Асьветы паводле вынікаў яго працы і одклікаў аб яго працы Загадчыка Галоўнай Управы Прафэсіянальна-тэхнічнай асьветы, Інспэктуры Народнага Камісарыяту Асьветы, Дырэктароў і Саветаў тэхнікумаў і іншых устаноў і арганізацый, якім належыць ініцыятыва падняцьця пытаньня аб звальненьні.

9. Усе канфлікты, зьвязаныя з назначэньнямі і звальненьнямі працаўнікоў тэхнікумаў, пералічаных у арт. 1, вырашаюцца Народным Камісарыятам Асьветы і Цэнтральным Праўленьнем Прафэсіянальнага Саюзу Працаўнікоў Асьветы.

10. Усе іншыя працаўнікі тэхнікумаў, акрамя пералічаных у арт. 1, назначаюцца і звальняюцца дырэктарамі тэхнікумаў па ўзгадненьні з мясцовымі прафсаюзнымі арганізацыямі на падставе Кодэксу Законаў аб Працы.

Нам. Народнага Камісара Асьветы БССР **П. Валасевіч.**

Старшыня Праўленьня Саюзу Працаўнікоў
Асьветы БССР **Мельнік.**

Загадчык Агульнага Аддзелу НКА БССР **Ю. Савіч.**

26 красавіка 1927 г.
№ 8355.

---

## 11. Наказ Народнага Камісарыяту Асьветы БССР

АБ ПАРАДКУ КАРЫСТАНЬНЯ ЧАРГОВЫМІ АДПАЧЫНКАМІ Ў КУЛЬТУРНА-АСЬВЕТНЫХ УСТАНОВАХ БССР Ў 1927 ГОДЗЕ.

1. Адказныя працаўнікі, уваходзячыя ў склад апарату Н. К. Асьветы, акруговых аддзелаў народнае асьветы і Вышэйшых Навучальных устаноў маюць права на адпачынак тэрмінам на адзін месяц, рэшта працаўнікоў апарату памянёных устаноў—на 14 дзён.

*Увага* 1. Да адказных працаўнікоў належаць тыя, што працуюць неабмежаваны час, паводле далучанага да гэтага сьпісу.

*Увага* 2. Тым працаўнікам, якія працавалі ў дні рэлігійных сьвят, прадугледжаных Кодэксам Законаў аб Працы, лік гэтых прапрацаваных дзён дадаецца да двухтыднёвага адпачынку.

2. Адпачынкі ў Н. К. Асьветы, і ва ўсіх культурна-асьветных установах БССР адбываюцца ў тэрмін з 1-га мая па 31-га кастрычніка 1927 году.

3. У наступных навучальных установах пэдагагічны склад мае права адпачынку тэрмінам на 2 месяцы, тэхнічны склад—на адзін месяц.

Па Галоўсацвыху: сямёхгадовыя і чатырохгадовыя працоўныя школы і прымітыўкі, Цэнтральная Дасьледчая Школа, паказальныя школы пры Пэдагагічных Тэхнікумах, агульна-адукацыйныя курсы, спэцыяльныя клясы пры сямёхгодках і школы першай і другой ступені.

Па Галоўпрафасьветы: Беларускі Дзяржаўны Унівэрсытэт, Сельска-Гаспадарчая Акадэмія імя Кастрычнікавай рэвалюцыі, Камуністычны Унівэрсытэт і Вэтэрынарны Інстытут, Рабфакі, Тэхнікумы, Вышэйшыя Курсы Беларусазнаўства, 2-х гадовыя настаўніцкія курсы, прафэсіянальна-тэхнічныя школы, школы фабзавучу, навучальна-практыкавальныя майстэрні.

Па Галоўпалітасьветы: Савецкія партыйныя школы, школы рабочае моладзі, вячэрнія школы ўсіх тыпаў.

4. Адміністрацыйны склад, пералічаных у 3-м пункце ўстаноў, карыстаецца двумя месяцамі адпачынку, як і пэдагагічны склад, толькі ў тым выпадку, калі гэтаму не перашкаджае адміністрацыйна-гаспадарчая праца па ўстанове (грунтоўны рамонт, рэарганізацыя ўстановы і інш. прычыны); у такіх выпадках адміністрацыйны склад мае права на адзін месяц адпачынку.

*Увага.* Пытаньні аб тым, якім тэрмінам адпачынку можа карыстацца адміністрацыйны склад у адпаведнасьці з гэтым пунктам, вырашаюцца Народным Камісарыятам Асьветы БССР, ці акруговым аддзелам народнае асьветы па прыналежнасьці па ўзгадненьні з адпаведнымі прафэсіянальнымі саюзамі.

5. У школах сялянскае моладзі загадчыкі і настаўнікі маюць права на паўтара месяца адпачынку, а тэхнічны склад—на адзін месяц.

6. У дзіцячых садох, ачагох, домах і калёніях пэдагагічны пэрсанал, загадчык установы і загадчык гаспадаркі маюць права на паўтара месяца, а іншыя працаўнікі на адзін месяц адпачынку.

7. У дэфэктыўных установах (Інстытуты Сацыяльнага Перавыхаваньня, Глуханямых, Разумова-Адсталых, Школа Сьляпых і Прыёмнікі-Разьмеркавальнікі) загадчыкі устаноў, настаўнікі, інструктары выхавальнікі і важатыя піанэр-атрадаў карыстаюцца 2-х месячным адпачынкам, іншыя працаўнікі—на 1 месяц.

8. Працаўнікі Беларускага Дзяржаўнага Музэю і яго аддзяленьняў, карыстаюцца адпачынкам з 1 па 31 ліпеня 1927 году, на які тэрмін Музэй і яго аддзяленьні зачыняюцца. Тэхнічны склад памянёных устаноў мае права на адпачынак у 20 дзён.

9. Дазорца Музэю і па аднаму працаўніку з яго аддзяленьняў атрымліваюць адпачынак раней ці пазьней паказанага ў папярэднім пункце тэрміну, каб у час агульнага адпачынку мець бязупынны нагляд за музэйнымі каштоўнасьцямі.

10. Працаўнікі Беларускае Дзяржаўнае і іншых агульна-даступных бібліатэк, хат-чытальнь, клюбаў і народных дамоў маюць права на адзін месяц адпачынку, а тэхнічны склад—на 20 дзён. Працаўнікі Беларускае Дзяржаўнае Бібліатэкі карыстаюцца адпачынкам у тэрмін з 1 ліпеня па 30 жніўня 1927 г., на які час прыпыняюцца ранішнія зьмены ў абедзьвюх чытальнях Беларускае Дзяржаўнае Бібліатэкі.

11. Інструктары ўсіх школьных устаноў (апроч дэфэктыўных) карыстаюцца адным месяцам адпачынку, а рэшту вольнага ад занят каў часу аддаюць агляду і рамонту інструмэнтаў і прыладаў, такса ма клопатам па забясьпечаньню майстэрань патрэбнымі матар'яламі.

12. Працаўнікі тэатру: адміністрацыя, артысты, хор, балет, аркэстр, паказчыкі і працаўнікі, што абслугоўваюць сцэну (бутафоры, рэквізытары, парыкмахары, краўцы, электра-тэхнікі, работнікі сцэны) маюць права на адзін месяц адпачынку, рэшта працаўнікоў—на два тыдні.

13. Адпачынкі вызначаюцца паасобным працаўнікам загадамі кіраўніка данае ўстановы, узгодненымі з прадстаўнікамі мясцкому.

14. Адпачынкі павінны быць выкарыстаны ўсімі працаўнікамі ў натуры і з гэтай прычыны забараняецца кампэнсаваць грашыма невыкарыстаныя адпачынкі

Нам. Народнага Камісара Асьветы БССР **П. Валасевіч**.

Загадчык Агульнага Аддзелу НКА БССР **Ю. Савіч**.

26 красавіка 1927 г.
№ 8191

---

ДАДАТАК.

Сьпіс адказных працаўнікоў па апарату культурна-асьветных устаноў, што маюць права на месячны адпачынак, складзены ў разьвіцьцё § 1 наказу Н. К. Асьветы БССР аб парадку карыстаньня чарговымі адпачынкамі ў 1927 г.

А. Па Народнаму Камісарыяту Асьветы БССР

1. Народны Камісар і яго Намесьнік.
2. Загадчыкі Галоўных Упраў.
3. Загадчык Дзяржкіно.
4. Старшыня Галоўпалітасьветы.
5. Загадчык Агульнага Аддзелу.
6. Загадчык Граш. Гасп. Аддз. і ст. бухгальтар, заступаючы яго ў час адсутнасьці.
7. Старшыя інспэктары і інспэктары.
8. Старшыня Навукова-Мэтадалёгічнага Камітэту.
9. Кансультанты Навукова-Мэтадал. Камітэту.
10. Загадчыкі Нацыянальных Бюро.

Б. Па Акр. Аддзелу Народнае Асьветы.

1. Загадчыкі Акр. Адзелаў Народнае Асьветы
2. Акруговыя інспэктары, у тым ліку і інспэктары нацыянальных культур.
3. Загадчыкі Палітасьветы.
4. Упаўнаважаны Галоўліту.

В. Па Беларускаму Дзяржаўнаму Унівэрсытэту.

1. Рэктар і загадчык навучальнай часткі.
2. Член Праўленьня, што кіруе гаспадаркай.
3. Загадчык Агульнага Аддзелу.
4. Сэкратар па студэнцкіх справах.

5. Галоўны бухгальтар.
6. Загадчык гаспадарчага аддзелу.
7. Сэкратары факультэтаў і рабфаку.

Г. Па Беларускай Дзяржаўнай Акадэміі Сельскае Гаспадаркі імя Кастрычнікавае Рэвалюцыі.

1. Рэктар і яго намесьнік.
2. Член Праўленьня, што кіруе гаспадаркай.
3. Загадчык агульнага аддзелу.
4. Загадчык гаспадарчага аддзелу.
5. Загадчык грашовага аддзелу.
6. Сэкратар па студэнцкіх справах.
7. Сэкратары факультэтаў.

Д. Па Камуністычнаму Унівэрсытэту.

1. Рэктар.
2. Загадчык навучальнай часткі.
3. Загадчык пазашкольнай часткі.
4. Загадчык гаспадарчай часткі.

Е. Па Беларускаму Дзяржаўнаму Вэтэрынарнаму Інстытуту.

1. Рэктар і прарэктар.

Нам. Народнага Камісара Асьветы БССР **П. Валасевіч.**

Загадчык Агульнага Аддзелу НКА БССР **Ю. Савіч.**

---

## 12. Пастанова Народнага Камісарыяту Асьветы БССР

АБ СКЛІКАНЬНІ 1-Й ЎСЕБЕЛАРУСКАЙ НАРАДЫ ЗАГАДЧЫКАЎ ШКОЛ ПАВЫШАНАГА ТЫПУ і РАБОЧАЕ МОЛАДЗІ.

Народны Камісарыят Асьветы БССР ПАСТАНАЎЛЯЕ:

1. Склікаць на аўтарок 21-га чэрвеня 1927 г. ў г. Менску 1-ю Ўсебеларускую Нараду загадчыкаў школ павышанага тыпу і рабочае моладзі ў наступным складзе:

| | Прадстаўн. з г. Менску | Прадстаўн. з месц |
|---|---|---|
| 1. Старшыня Галоўпалітасьветы . . . | 1 | — |
| 2. Інспэктароў . . . . . . . | 4 | — |
| 3. Старшыня Мэтад. Камітэту Народнага Камісарыяту Асьветы . . | 1 | — |
| 4. Заг. Цэнтр. Габін. ліквід. няпісьмен. . | 1 | — |
| 5. Загадчык Менскага Акрпалітасьветы . | 1 | — |
| 6. Загадчыкаў школ павышанага тыпу . | 4 | 23 |
| 7. Загадчыкаў школ рабочае моладзі . . | 4 | 16 |
| Разам . . | 16 | 39 |

2. Намеціць наступны парадак дню Нарады:

а) Становішча і задачы вячэрніх рабочых школ—дакладчык т. Шамардзіна, садакладчык—т. Капаевіч.

б) Мэтады работы ў вячэрніх школах—дакладчыкі: т.т. Чарэпка і Гулько, садаклады: 1) Гомельскай цэнтральнай вячэрняй школы рабочае моладзі і 2) школ Мазырскай акругі, садакладчык Гомельскай вячэрняй школы рабочае моладзі загадчык гэтай школы і ад Мазырскіх школ—адзін з загадчыкаў па прызначэньню Акрпалітасьветы.

в) Разгляд праграм і мэтадаў выкладаньня (праца ў сэкцыях). Сэкцыі школ павышанага тыпу і рабочае моладзі працуюць сумесна па цыклях дысцыплін.

г) Бягучыя справы.

д) Вячэрнія школы для дарослых і школы моладзі ў сыстэме народнае асьветы.

3. Арганізаваць пры Нарадзе наступныя сэкцыі:

а) Грамадазнаўчую—для разгляду праграм па грамадазнаўству, географіі.

Старшынёй сэкцыі рэкамэндаваць т. Розіна.

б) Па разгляду праграм моваў: беларускай, расійскай, яўрэйскай і польскай.

Старшынёй сэкцыі рэкамэндаваць т. Зянюка.

в) Прыродазнаўча-матэматычную для разгляду праграм па прыродазнаўству, матэматыцы, фізыцы і хіміі.

Старшынёй сэкцыі рэкамэндаваць т. Гулько.

4. Нараду разьлічыць на 3 дні. Адчыніць Нараду 21-га чэрвеня а 10-й гадзіне раніцы ў Малай Салі Клюбу Карла Маркса.

5. Парадак працы Нарады намеціць наступны:

а) 21-га чэрвеня—даклад и садаклад па першаму пытаньню, спрэчкі па іх і заключнае слова.

б) 22-га чэрвеня—даклады і садаклады па другому пытаньню, спрэчкі па іх, заключныя словы, з другой паловы дня—праца сэкцый.

в) 23-га чэрвеня—праца сэкцый і заключны пленум.

6. Пры Нарадзе арганізаваць выстаўку школьных насьценных газэт. Арганізацыю выстаўкі даручыць т. Вінаградаву.

7. Дэлегаты па акругах разьмяркоўваюцца наступным чынам:

| №№ | НАЗВА АКРУГІ | Прадст. школ павыш. тыпу | Загадч. школ рабочае моладзі | Разам |
|---|---|---|---|---|
| 1 | Бабруйская . . . . | 2 | 3 | 5 |
| 2 | Барысаўская . . . . | 2 | 2 | 4 |
| 3 | Віцебская . . . . | 4 | 3 | 7 |
| 4 | Калінінская . . . . | 1 | 1 | 2 |
| 5 | Магілёўская . . . . | 2 | 2 | 4 |
| 6 | Мазырская . . . . | 2 | 1 | 3 |
| 7 | Аршанская . . . . | 1 | 2 | 3 |
| 8 | Полацкая . . . . . | 3 | 1 | 4 |
| 9 | Слуцкая . . . . . | 1 | 1 | 2 |
| 10 | Гомельская . . . . | 3 | — | 3 |
| 11 | Рэчыцкая . . . . . | 2 | — | 2 |
| 12 | Менская (г. Менск) . . . . | 4 | 4 | 8 |
| | Разам . . | 27 | 20 | 47 |

8. Нар.Кам.Асьветы бярэ на сябе харчаваньне дэлегатаў з акруг (апроч Менскай), забясьпечаньне кватэрай і 50 проц. літарамі на праезд у Менск і назад. Акр. аддзелам народнае асьветы прапануецца ўзяць на сябе рэшту (50 проц.) выдаткаў па праезду дэлегатаў.

9. У зьвязку з абмежаванасьцю каштарысу Нарады, лічыць неабходным, каб дэлегаты прыехалі ўсе ў адзін дзень—21-га чэрвеня 1927 г.

10. Усе гаспадарчыя клопаты ўзлажыць на Грашова-Гаспадарчы Аддзел НКА.

Народны Камісар Асьветы БССР **А. Баліцкі.**

Загадчык Агульнага Аддзелу НКА БССР **Ю. Савіч.**

5-га мая 1927 г.
№ 82.

---

## 13. Пастанова Народнага Камісарыяту Асьветы БССР

### АБ ТЭРМІНАХ ПАЧАТКУ І ЗАКАНЧЭНЬНЯ НАВУЧАЛЬНАГА ГОДУ Ў НАВУЧАЛЬНЫХ УСТАНОВАХ БССР.

Народны Камісарыят Асьветы ўстанаўляе наступныя тэрміны пачатку і заканчэньня навучальнага году ў навучальных установах БССР:

| | Канец навучал. году. | Пачатак навучальн. году |
|---|---|---|
| I. Па ўстановах Сацыяльнага Выхаваньня. | | |
| 1) На агульна-адукацыйных курсах, у спэцыяльных клясах, у Цэнтр. Дасьл. Школе, у Вопытна-Практ. школах пры Пэдагагічных тэхнікумах і пры Беларуск. Дзярж. Унівэрсытэце, у 4-х гадовых працоўных школах у гарадох і мястэчках і ва ўсіх 7-х гадовых працоўных школах. | 15 чэрвеня | 1 верасьня |
| 2) У чатырох-гадовых вясковых школах . . . . . . . | 1 чэрвеня | 15 верасьня |
| 3) У школах сялянскае моладзі . | 10 мая | 1 верасьня |
| II. Па Вышэйшых і Прафэсіянальна-Тэхнічных навучальных установах. | | |
| 1) У Беларускім Дзяржаўным Унівэрсытэце і Вэтэрынарным Інстытуце . . . . . . . | 15 чэрвеня | 1 верасьня |
| *Увага.* Залікавая сэсія адбываецца з 15 мая па 15 чэрвеня. | | |
| 2) У Беларускай Дзярж. Акадэміі Сельскае Гаспадаркі імя Кастрычнікавае Рэвалюцыі . . . . | 1 чэрвеня | 15 верасьня |

| | Канец навучальнага году | Пачатак навучальнага году |
|---|---|---|
| *Увага.* Залікавая сэсія адбываецца з 1 мая па 1 чэрвеня. | | |
| 3) На Вышэйшых Курсах Беларусазнаўства . . . . . . | 15 чэрвеня | 15 верасьня |
| 4) На рабочых факультэтах, у тэхнікумах (апроч сельска-гаспадарчых), пэдагагічных курсах, прафэсіяльна-тэхнічных школах (апрача сельска-гасп.), навучальна-практыкавальных майстэрнях, школах фаб.-зав. вучнёўства і навучальных установах на самааплаце . . . | 7 чэрвеня | 1 верасьня |
| 5) У сельска-гасп. навуч. установах (тэхн. і школах) . . . | 15 мая | 15 верасьня |
| *Увага.* У сельска-гаспад. навучальных установах вучні ў пэрыяд часу з 15 мая па 15 верасьня атрымліваць месячны адпачынак па чарзе, якая вызначаецца пэдагагічным саветам. | | |
| III. Па Палітыка-Асьветных установах. | | |
| 1) У Камуністычным Унівэрсытэце імя Леніна . . . . . | 15 чэрвеня | 1 верасьня |
| 2) У савецкіх партыйных школах I і II ст. і ў школах павышанага тыпу. | 15 чэрвеня | 15 верасьня |
| 3) У вячэрніх школах сялянскае моладзі . . . . . . . | 1 красавіка | 1 лістапада |
| 4) У вячэрніх школах рабочае моладзі . . . . . . . | 15 чэрвеня | 15 верасьня |
| 5) У школах для малапісьменных і лікпунктах . . . . . | 15 красавіка | 1 кастрычн. |

IV. У школах 1 і 2 ступені Гомельскае і Рэчыцкае акруг закончыць бягучы 1926/27 навучальны год у тэрмін, вызначаны Народным Камісарыятам Асьветы РСФСР, а пачаць 1927/28 навучальны год, як і ва ўстановах сацыяльнага выхаваньня БССР, у тэрміны, паказаныя ў п. п. 1 і 2 разьдзелу I.

V. Дзіцячыя дамы, сады і ўстановы для дэфэктыўных дзяцей (Інстытуты Сацыяльнага Перавыхаваньня, Глуханямых і Разумова-адсталых, школа Сьляпых, прыемнікі—разьмеркавальнік), як зачыненыя ўстановы, працуюць без перапынку.

Народны Камісар Асьветы БССР **А. Баліцкі**.

Кіраўнік Спраў НКА БССР **Ю. Савіч**

9-га мая 1927 г.
№ 85.

## 14. Абежнік Народнага Камісарыяту Асьветы БССР

АБ ВЫДАЧЫ ПАСЬВЕДЧАНЬНЯЎ І АТЭСТАТАЎ УСТАНОВАМІ НАРОДНАЕ АСЬВЕТЫ З АДБІТКАМ ПЯЧАТКІ З НОВЫМ ДЗЯРЖАЎНЫМ ГЭРБАМ БССР.

*Акруговым Аддзелам Народнае Асьветы і ўсім установам, непасрэдна падпарадкаваным Народнаму Камісарыяту Асьветы.*

У зьвязку з зацьверджаньнем новага дзяржаўнага гэрбу прапануецца з гэтага году ўсе пасьведчаньні і атэстаты аб сканчэньні навучальных установ, узоры якіх зацьверджаны Народным Камісарыятам Асьветы, выдаваць з адбіткам на іх пячаткі з новым дзяржаўным гэрбам.

Народны Камісар Асьветы БССР **А. Баліцкі.**

Кіраўнік Спраў НКА БССР **Ю. Савіч.**

14-га мая 1927 г.
№ 8787.

---

## 15. Абежнік Народнага Камісарыяту Земляробства БССР

АБ ПАРАДКУ ПЕРАГЛЯДУ СКЛАДУ ЛЕСАКАРЫСТАЛЬНІКАЎ ЛЯСОЎ МЯСЦОВАГА ЗНАЧЭНЬНЯ.

*Акруговым Зямельным Аддзелам.*

Народны Камісарыят Земляробства прапануе прыняць да выкананьня ухваленую Саветам Народных Камісараў БССР за 30 сакавіка 1927 году пастанову Камісіі Законадаўчых Праэктаў пры СНК БССР, паводле якой паасобныя пытаньні аб зьмене складу карыстальнікаў таго ці іншага лесу павінны вырашацца асобнаю кожны раз пастановаю Ўраду, чаму далейшы перагляд пытаньняў, датычных зьмены складу лесакарыстальнікаў неабходна спыніць і толькі ў выключных выпадках пытаньне аб пераглядзе вырашаць праз Акруговыя Выканаўчыя Камітэты паводле паказанае вышэй пастановы.

Гэта пастанова ня тычыцца тых момантаў, якія прадугледжваюць адабраньне ад лесакарыстальнікаў дач мясцовага значэньня, паводле п. 30 палажэньня, прынятага Цэнтральным Выканаўчым Камітэтам БССР, аб гэтых лясох.

Нам. Народнага Камісара Земляробства БССР **Я. Валодзька.**

Начальнік Ляснога Кіраўніцтва НКЗ БССР **Ткачоў.**

11 мая 1927 г.
№ 24.

---

## 16. Абежнік Народнага Камісарыяту Земляробства БССР

АБ ЗАДАЧАХ І МЕРАПРЫЕМСТВАХ ПА РАЗЬВІЦЬЦЮ ПЧАЛЯРСТВА Ў СУВЯЗІ З ВЫДАНЫМІ ЗАКОНАПАЛАЖЭНЬНЯМІ ПА ПЧАЛЯРСТВУ.

*Акруговым Зямельным Аддзелам.*

Выпрацоўка Кіраўніцтвам Сельскай Гаспадаркі НКЗ БССР пэрспэктыўнага пляну разьвіцьця пчалярства ў БССР на 5-ці-годзьдзе 1925/26—1929/30 г.г. і выданьне ў цяперашні час грунтоўных законаў

па пчалярству, іменна 1) Пастановы СНК БССР за 2/II г. г. аб палёгках разьвіцьцю пчалярства ў БССР, 2) Інструкцыі аб адводзе вучасткаў зямлі пад пасекі і для пасеву мёданосных расьлін у дзяржаўных лясох і на землях запаснага фонду БССР, зацьверджанай Н. К. Земляробства БССР 8-га красавіка г. г. і 3) правіл па вядзеньню пчалярства ў БССР, зацьверджаных Н. К. Земляробства і Н. К. Ўнутраных Спраў БССР 15-га красавіка г.г.,--ствараюць у справе разьвіцьця пчалярства ў БССР пераломны момант і высоўваюць перад Кіраўніцтвам Сельскае Гаспадаркі і Вэтэрынарыі НКЗ, зямельнымі ўстановамі і працаўнікамі па пчалярству на мясцох шэраг новых задач.

Наколькі пчалярства, да выданьня вышэйазначаных законаў ня меўшае правовай падставы, прадстаўляла з сябе дапаможную галіну сельскае гаспадаркі з неазначанаю ўдзельнаю—вагаю, настолькі ў цяперашні час, уведзенае ў правовыя і інструкцыйныя нормы, яно павінна атрымаць ў сельска-гаспадарчым будаўніцтве пэўнае значэньне.

Прызнаньне занятку пчалярствам без ужываньня наёмнае працы заняткам працоўным, які карыстаецца падтрыманьнем і дапамогаю Ураду, дача пчалярскім каапэрацыйным аб'яднаньням і прыватным пчаляром, якія ўваходзяць у пчалярскія аб'яднаньні, шэрагу істотных льгот, дача пчаляром магчымасьці скарыстаньня для пчалярства багатых па мёдзборных умовах лясных прастораў, спосабы абароны пасек ад драпежніцтва, правілы аб папярэджваньні распаўсюджваньня заразьлівых хвароб пчол—гнільцу і наземы і аб барацьбе з гэтымі хваробамі і г. д.—вось тыя істотныя для разьвіцьця пчалярства БССР пытаньні, якія ў памянёных вышэй урадовых актах атрымалі законадаўчае вырашэньне ў мэтах рацыяналізацыі існуючага калоднага пчалярства, з аднаго боку, прыцягненьня да пчалярства ўвагі шырокіх мас насяленьня—з другога, і з трэцяга боку—ў мэтах агульнага падняцьця і разьвіцьця пчалярства і сельскае гаспадаркі БССР.

У сувязі з гэтым, прызнаючы неабходным павялічыць працу па пчалярству на мясцох і лічачы, што: 1) выданьне вышэйазначаных законаў па пчалярству дае падставу і магчымасьць пашырыць пчалярства ў масах насяленьня, якое да гэтае пары ім ня цікавілася, галоўным чынам сярод тэй часткі насяленьня, якая больш за ўсё патрабуе агрыкультурнай урадавай дапамогі і якая па праву карыстаецца пераважнаю ўвагаю Савецкай Улады—беднякоў і серадняк коў і 2) што галоўным шляхам, якім можа і павінна ісьці разьвіцьцё пчалярства, зьяўляюцца каапэрацыя і культурна-асьветная праца, Кіраўніцтва Сельскае Гаспадаркі і Вэтэрынарыі НКЗ прапануе Акруговым Зямельным Аддзелам:

I. Зрабіць захады да шырокага азнаямленьня насяленьня з вышэйазначанымі законамі па пчалярству, зварочваючы пры гэтым увагу сялян на тое, што: 1) занятак пчалярствам, пры ўмове прыстасаваньня рацыянальных спосабаў вядзеньня пчол, зьяўляецца надта карысным заняткам: пры аднолькавай траце невялікіх сродкаў, працоўных рук і працоўнага часу, але пры абавязковай умове заўладаньня тэхнікаю культурнага пчалярства, ні адна сельска-гаспадарчая галіна ня можа даць столькі прыбытку, колькі можа даць пчалярства і 2) ва ўсіх стасунках культурна-пастаўленая невялічкая, у некалькі дзесяткаў сямей пчол, пасека можа забясьпечыць працоўную сям'ю ня менш, чымся апрацоўка зямельнага надзелу сярэдняй нормы.

II. Павялічыць працу па аказаньню належнай, усякімі спосабамі, дапамогі разьвіцьцю сялянскай каапэрацыі: ажыцьцяўленьне

дзейнасьці існуючых пчалярскіх аб'яднаньняў, арганізацыя новых пчалярскіх аб'яднаньняў, асабліва ў тых акругах, у якіх пчалярская каапэрацыя вельмі слаба, будаваньне пчалярскіх арцеляй, пчалярскіх гурткоў моладзі, зьвязваньне ўсіх раённых аб'яднаньняў па пчалярству ў акруговыя аб'яднаньні, дапамога ім у пытаньнях атрыманьня сельска-гаспадарчага крэдыту, у пытаньнях дастаўкі, збыту, атрыманьня літаратуры па пчалярству і г. д., павінны быць пакладзены побач з культурна-асьветнаю працаю, ў аснову ўсёй працы па пчалярству.

3. Павялічыць культурна-асьветную працу па пчалярству, іменна.:

1) У акругах Магілёўскай, Бабруйскай, Калінінскай, Слуцкай, і Мазырскай, у якіх у мінулым годзе закладзены, з атрыманьнем субсыды па дзяржаўным бюджэце, вучэбна-паказальныя пасекі пры пчалярскіх каапэрацыйных аб'яднаньнях, безадкладна арганізаваць гэтыя пасекі на аснове падстаў і правіл, выкладзеных у заключаных Акруговымі Зямельнымі Аддзеламі з належнымі пчалярскімі каапэрацыйнымі аб'яднаньнямі дагаворах і ў паасобку: а) апавясьціць насяленьне акругі і асабліва бліжэйшых да вучэбна-паказальных пасек раёнаў аб арганізацыі і дзейнасьці пасекі, з абавяшчэньнем насяленьню прадугледжанай увагаю да п. 4-га дагавару Інструкцыі аб парадку даведваньня і карыстаньня пасекаю, б) выдаць загадчыку вучэбна-паказальнай пасекі прадугледжаны п. 5-м дагавору журнал для запісу цаведвальнікаў пасекі, праведзеных для іх паказальных прац, дадзеных парад, паказаньняў і інш. і в) устанавіць догляд за культурна-асьветнаю працаю вучэбна-паказальных пасек з боку акруговага інструктара па пчалярству, для якога вучэбна-паказальная пасека павінна быць галоўнаю падставаю яго асабістай культурна-асьветнай працы, паказальных работ і г. д.

2) У акругах Менскай, Аршанскай, Віцебскай і Барысаўскай хутчэй арганізаваць такія-ж самыя вучэбна-паказальныя пасекі пры пчалярскіх каапэрацыйных аб'яднаньнях, што акруговым зямельным аддзелам прапанована было Кіраўніцтвам Сельскае Гаспадаркі раней.

3) Ва ўсіх акругах заключыць у працягу гэтага году, у парадку і паводле „Палажэньня аб дагаворных вучэбна-паказальных і паказальных пасеках БССР", дагаворы з усімі ўзятымі акруговымі зямельнымі аддзеламі на падлік і ўнесеннымі ў гадовую справаздачу за мінулы 1925-1926 г. апэрацыйны год культурнымі пасекаўласьнікамі, устанавіць за культурна-асьветнаю працаю гэтых пасек належны догляд, кантроль і дапамогу з боку акруговага інструктара па пчалярству і г. д.

4) Правесьці ў вясновы і летні пэрыяды кароткатэрміновыя практычныя курсы па пчалярству, паказальныя працы і інш., прызначаныя адпаведнымі вытворчымі плянамі належных акруговых зямельных аддзелаў.

Нам. Народнага Камісара Земляробства БССР
і Начальнік Кіраўніцтва Сельскае
Гаспадаркі і Вэтэрынарыі НКЗ **Ц. Каровікаў.**

Інспэктар Пчалярства Кіраўніцтва Сельскае
Гаспадаркі і Вэтэрынарыі НКЗ БССР **Я. Струкоўскі.**

12 мая 1927 г.
№ 25.

## 17. Пытаньні і адказы.

Запытаньне Чырвона-Слабодзкай раённай зямельнай камісії за 24 сакавіка 1927 г. № 15526:

ПЫТАНЬНЕ 62. У якім парадку і хто павінен разьвязваць ўзьмежныя спрэчкі, якія ўзьнікаюць пры лесаўпарадкаваньні паміж насяленьнем і лясным ведамствам?

АДКАЗ. На грунце пункту „а“ арт. 200 Зям. Код. ўзьнікаючыя пры лесаўпарадкаваньні і неадпаўшыя пры прад'яўленьні праэкту адмежаваньня ляснога фонду спрэчкі аб граніцах паміж насяленьнем і лясным ведамствам разглядаюцца па сутнасьці ў якасьці першае інстанцыі акруговаю зямельнаю камісіяй.

Запытаньне Рэчыцкай акруговай зямельнай камісіі за 26 сакавіка 1927 г. № 53/0326:

ПЫТАНЬНЕ 63. У якім, судовым ці адміністрацыйным, парадку павінна разглядацца справа аб устанаўленьні граніцы гораду пры яго пашырэньні, бо хоць арт. 200 Зям. Код. і вызначае судовы парадак разгляду гэтае справы, але арт. 129 вызначае, што справа аб устанаўленьні новае гарадзкое мяжы канчаткова вырашаецца Прэзыдыумам Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту?

АДКАЗ. Пашырэньне гарадзкой мяжы дазваляецца ў тым выпадку, калі ў інтарэсах горадоў неабходна павялічыць яго сядзібную плошчу, альбо калі далучэньне ца гораду новае тэрыторыі патрэбна для яго дабрабытнасьці (пабудаваньня вадаправоду, каналізацыі, электрычнай станцыі, пашырэньня зяленай плошчы і інш.). Пры ўзбуджэньні перад зямельнымі органамі справы аб пашырэньні гарадзкой мяжы павінны быць прадстаўлены довады неабходнасьці такога пашырэньня і яго магчымасьці. Зямельныя органы маюць права адмовіць у хадайніцтве аб пашырэньні гарадзкой мяжы, калі знойдуць, што пашырэньне гэтае не выклікаецца акалічнасьцямі справы. Толькі у гэтым выпадку на падставе арт. 129 Зям. Код. Народны Камісарыят Унутраных Спраў можа паставіць пытаньне аб пашырэньні меж гораду на канчатковае вырашэньне Прэзыдыуму Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту. Прынятая-ж зямельнымі органамі да выкананьня земляўпарадчая справа аб пашырэньні гарадзкой мяжы вядзецца і разглядаецца ў агульным парадку, устаноўленым арт. арт. 166—174 і 200 Зям. Код.

Запытаньне 2-ой Бабруйскай раённай зямельнай камісіі за 1 красавіка 1927 г. № 7862:

ПЫТАНЬНЕ 64. Ці можна на грунце арт. 7 Зям. Код. завясьці справу аб адабраньні зямлі ад працоўнае гаспадаркі, якая скарыстоўвае зямлю з парушэньнем арт. 58 таго-ж Кодексу, калі раней заведзеная сельскім саветам падобная-ж справа спынена была вышэйшымі інстанцыямі зямельнага суду?

АДКАЗ. На падставе арт. 7 Зям. Код. нагляд зямельных органаў за законнасьцю працоўнага землякарыстаньня складаецца з: 1) назіраньня, каб землякарыстальнікі правільна вялі сельскую гаспадарку з захаваньнем працоўнага ладу, 2) адміністрацыйнага абследаваньня паасобных гаспадарак у выпадках неабходнасьці і 3) падачы ў раённую зямельную камісію іску аб адабраньні зямлі ад

гаспадарак, парушаючых асноўныя абавязкі працоўнага землякарыстаньня.

Самымі блізкімі да насяленьня зямельнымі органамі, якія рэгулююць землякарыстаньне, зьяўляюцца сельскі савет і зямельны стол раённага выканаўчага камітэту. Калі пачатая імі справа аб адабраньні зямлі ад гаспадаркі, парушаючай умовы працоўнага землякарыстаньня, спынена была зямельным судом, а землякарыстальнік пасьля гэтага зноў парушыў вызначаныя законам правілы рацыянальнага вядзеньня свае працоўнае сельскае гаспадаркі, альбо ўчыніў незаконную ўмову на зямлю, то зямельны орган павінен, зрабіўшы належнае абсьледаваньне, падаць новы іск у парадку арт. арт. 26 ці 58 Зям. Код.

## Запытаньні Бабруйскай акруговай зямельнай камісіі за 2 красавіка 1927 г. № 4216:

ПЫТАНЬНЕ 65. Ці спаганяецца і ў якім разьмеры судовая пошліна паісках аб зьмене гаспадара паводле (арт. 67 і паісках аб адабраньні ад гаспадаркі зямлі, паводле арт. арт. 26 і 58 Зям. Код.?

АДКАЗ. Паданыя членамі двара іскі аб зьмене гаспадара з прычыны нядбалага вядзеньня ім гаспадаркі, а таксама іскі зямельных органаў, якія падаюцца імі на падставе арт. арт. 7, 26 і 58 Зям. Код. у парадку ажыцьцяўленьня іх абавязку па нагляду за працоўным землякарыстаньнем, зьяўляюцца іскамі не маемаснага характару, якія судоваю пошлінаю не аплачваюцца на грунце арт. 35 ГПК, арт. арт. 2 і 4 інструкцыі аб парадку спагнаньня судовых пошлін зямельнымі камісіямі.

ПЫТАНЬНЕ 66. Ці можа раённая зямельная камісія пры новым разглядзе справы пасьля скасаваньня вышэйшай інстанцыяй яе першапачатковай пастановы зьменшыць раней вызначаны ёю разьмер судовае пошліны пры зьмяншэньні першапачатковага іску альбо прысуджанага, калі стараною абскарджана была яе пастанова толькі па сутнасьці іску, а не па пытаньню аб вызначэньні разьмеру судовае пошліны і калі спагнаньне судовае пошліны яшчэ ня зроблена?

АДКАЗ. Калі вышэйшая інстанцыя скавала пастанову раённае зямельнае камісіі па сутнасьці іску, то камісія пры новым разглядзе справы можа абгаварыць пытаньне аб судовай пошліне пры зьмяншэньні стараною іску. Унесеная пошліна не зварочваецца і пры зьмяншэньні стараною іску.

## Запытаньні Магілёўскай акруговай зямельнай камісіі за 5 красавіка 1927 г. № 3692:

ПЫТАНЬНЕ 67. Пры разглядзе справы па сутнасьці ў якасьці першае інстанцыі акруговаю зямельнаю камісіяй ня была вызначана судовая пошліна. У якім парадку ў гэтым разе падлягае спагнаньню пошліна, калі разьмер яе ня быў вызначаны і пры падачы іску?

АДКАЗ. Калі па недагляду акруговае зямельнае камісіі ня была спагнана судовая пошліна пры падачы іску, а таксама аб спагнаньні яе ня было пастаноўлена пры вынясеньні рашэньня па справе, то спагнаньне судовае пошліны робіцца на грунце дадаткова вынасімай акруговаю зямельнаю камісіяй прыватнай пастановы з захаваньнем арт. арт. 16 і 17 інструкцыі аб парадку спагнаньня судовых збораў за 20 мая 1926 г.

ПЫТАНЬНЕ 68. Дзе павінны захоўвацца квіты аб спагнаньні судовае пошліны за касацыйную скаргу па справе, разгледжанай акруговаю зямельнаю камісіяй у якасьці першае інстанцыі?

АДКАЗ. На падставе арт. 15 інструкцыі аб парадку спагнаньня судовых пошлін квіты акруговага грашовага аддзелу аб унясеньні судовае пошліны павінны далучацца да касацыйных скарг на пастановы акруговае зямельнае камісіі і захоўвацца разам з гэтымі скаргамі.

Адказы на пытаньні 62—68 даюцца Асобай Калегіяй Вышэйшага Кантролю пры Н. К. Земляробства БССР (журнал распарадчага пасед-жаньня АКВК за 22 красавіка 1927 г. № 28).

### Запытаньні Калінінскай акруговай зямельнай камісіі (бяз даты):

ПЫТАНЬНЕ 69. Ці лічацца землі, якія зданы ў арэнду раней выданьня асноўнага закону аб працоўным землякарыстаньні, фактычным карыстаньнем арандатараў, альбо яны павінны лічыцца запасным фондам? Калі дагаворныя землі лічацца працоўным карыстаньнем, то ці могуць быць залічаны ў запасны фонд лішкі гэтых зямель звыш нормы?

АДКАЗ. Землі, зданыя ў арэнду раней выданьня асноўнага закону аб працоўным землякарыстаньні зямельнымі органамі са складу быўшых непрацоўных зямель, зьяўляюцца дзяржаўнаю зямельнаю маемасьцю і знаходзяцца ў дагаворным карыстаньні іх арандатараў. Пры пералічэньні гэтых зямель аддзелам дзяржаўных маемасьцяй у запасны фонд разьмеркаваньне іх у працоўнае карыстаньне патрабуючага зямлі насяленьня павінна рабіцца ў парадку, устаноўленым тлумачэньнямі 3 і 7 Асобае Калегіі Вышэйшага Кантролю па журналах яе № 11, 17 і 22 (Бюл. СНК за 1926 г. № 10 стар. 60, № 15 стар. 32 і № 4 за 1927 г. стар. 29).

ПЫТАНЬНЕ 70. Ці маюць права члены мэліарацыйнага таварыства, выключаныя з яго за невыкананьне статуту, патрабаваць ад таварыства звароту свайго зямельнага вучастку, уключанага ў агульную плошчу, на якой праводзіцца мэліарацыя?

АДКАЗ. На падставе арт. 18 тыповага статуту мэліарацыйнага таварыства выключаны з яго член ня мае права на ўзваротнае атрыманьне свайго зямельнага вучастку. Апошні ў гэтым выпадку застаецца ў распараджэньні таварыства.

ПЫТАНЬНЕ 71. Што трэба лічыць грамадзянскай установай? У паасобку ці зьяўляецца установай зацьверджанае мэліарацыйнае таварыства?

АДКАЗ. Грамадзянскімі ўстановамі, аб якіх гаворыцца ў арт. 200 Зям. Код., лічацца прафсаюзныя арганізацыі, каапэрацыйныя аб'яднаньні, таварыствы ўзаемадапамогі і інш. Мэліарацыйнае таварыства зьяўляецца асобнаю арганізацыяй землякарыстальнікаў, аб'яднаных статутам для сумесных работ па грунтоўнаму палепшаньню зямлі. У сучасны момант усе зямельныя спрэчкі па справах мэліарацыйных таварыстваў, разьвязваюцца па сутнасьці ў якасьці першае інстанцыі акруговаю зямельнаю камісіяй. Канчаткова-ж пытаньне аб падсуднасьці гэтых спраў будзе разьвязана водна-мэліарацыйным кодэксам.

ПЫТАНЬНЕ 72. Ці існуе трохгадовая даўнасьць для іску аб зямлі?

АДКАЗ. Для іскаў аб зямлі, прад'яўляемых дзяржавай у асобе яе органаў, даўнасьці няма, бо зямля складае выключна дзяржаўную

ўласнасьць. У адносіне-ж да іскаў, прад'яўляемых рознымі землякарыстальнікамі адзін да аднаго, ужываецца арт. 44 Гр. Код., паводле якога права на іскі скасоўваецца па сканчэньні трохгадовага тэрміну, калі ў законе нявызначаны другі тэрмін даўнасьці. Такім чынам спэцыяльны тэрмін даўнасьці існуе, напрыклад, для іскаў, прадугледжаных арт. арт. 16 і 73 Зям. Код. Права-ж на іск аб аднаўленьні парушанага землякарыстаньня скасоўваецца агульнаю трохгадовою даўнасьцю.

ПЫТАНЬНЕ 73. Ці можа быць падзелена маемасьць гарадзкога тыпу зямельнаю камісіяй, калі ею разглядаецца пытаньне аб падзеле гаспадаркі працоўнага землякарыстальніка, які жыве ў горадзе.

АДКАЗ. Пры падзеле двара, які мае сядзібу ў гарадзкой мяжы з будынкамі і іншаю маемасьцю на сядзібным вучастку, а палявыя і другія ўжыткі па-за гарадзкой мяжой, калі двор гэты займаецца выключна вядзеньнем сельскай гаспадаркі, зямельным камісіям падсудна спрэчка аб падзеле ўсяе служачае для гэтае гаспадаркі маемасьці агульнага карыстаньня сялянскага двара, г. з. будынкаў, ураджаю і інш., бо немэтазгодным было-б устанаўленьне падвойнай падсуднасьці для аднае і тае-ж маемасьці, якая абслугоўвае сельскую гаспадарку.

ПЫТАНЬНЕ 74. Пры наяўнасьці якіх выключных выпадкаў можна на грунце ўвагі 2 да арт. 73 Зям. Код. патрабаваць падзелу двара увайшоўшы ў яго склад праз шлюб альбо прымацтва новы член?

АДКАЗ. Здаваленьне зямельнаю камісіяй іскаў аб падзеле драбімага па сваіх разьмерах двара, якія падаюцца ўвайшоўшымі ў яго склад праз шлюб альбо прымацтва членамі, можа рабіцца толькі пры наяўнасьці выключных акалічнасьцяй, да якіх адносіцца, напрыклад, устаноўленая немагчымасьць сумеснага пражываньня старон.

ПЫТАНЬНЕ 75. Ці маюць права самавольныя перасяленцы здаваць у арэнду зямлю на агульных падставах?

АДКАЗ. Калі члены двара выяжджаюць за межы БССР для адшуканьня зямлі, то двор мае права на аддачу зямлі ў арэнду толькі пры наяўнасьці ўмоў, паказаных у арт. 27 Зям. Код. У выпадку залічэньня перасяленчым органам зямлі за дваром, альбо прыняцьця яго ў свой склад тубыльнаю грамадою па прыгавару, зарэгістраванаму зямельнымі органамі, двор гэты карыстаецца правамі пляновых перасяленцаў і можа пагэтаму аддаць у арэнду сваю зямлю ў месцы выезду на тэрмін, вызначаны ва ўвазе да арт. 33 Зям. Код.

Пытаньні на адказы 69—75 даюцца Асобай Калегіяй Вышэйшага Кантролю пры Н. К. Земляробства БССР (журнал распарадчага паседжаньня АКВК за 22 красавіка 1927 г. № 29).

## 18. Аб абмежаваньні драбімасьці сялянскіх гаспадарак пры разьдзелах.

*(Да праэкту закону, які разглядаўся на паседжаньні СНК БССР 11-га мая 1927 г.).*

VIII Усебеларускі Зьезд Саветаў у сваёй рэзалюцыі па дакладу Народнага Камісарыяту Земляробства прызнаў патрэбным у інтарэсах больш хуткага аднаўленьня і разьвіцьця сельскае гаспадаркі прысьпешыць з выданьнем закону аб недрабімасьці сялянскіх гаспадарак і даручыў Ураду БССР распрацаваць па гэтым пытаньні патрэбныя законы і ажыцьцявіць іх. Патрэба ў выданьні такога закону выклікаецца тым, што да гэтага часу сялянскія гаспадаркі часта падзяляліся бяз усякай эканамічнай мэтазгоднасьці, утвараючы пры гэтым ня зусім жыцьцяздольныя двары. А адсюль сялянскія гаспадаркі усё больш драбнеюць, што ў сваю чаргу перашкаджае далейшаму адбудаваньню і разьвіцьцю сельскае гаспадаркі.

Драбімасьць сельскае гаспадаркі можна тлумачыць наступнымі галоўнымі прычынамі. Першая прычына—гэта тое, што драбіліся тыя гаспадаркі, якія не жадалі абрэзкі зямлі ў іх. Другое, што дзеляцца сялянскія двары да пачатку земляўпарадкаваньня, каб атрымаць больш зямлі. Дзеляцца сялянскія гаспадаркі таму, каб менш было працаздольных і, такім чынам, каб атрымаць больш льгот. Дзеляцца сялянскія двары і таму, што ня могуць жыць разам два жанатыя браты і г. д. З гэтых прычын, як з боку правовага, так і з боку эканамічнага патрэбна правесьці шэраг мерапрыемстваў, каб прыпыніць драбімасьць сялянскіх двароў.

Для папярэджаньня сялянскіх землякарыстаньняў ад далейшае драбімасьці і для павялічэньня вытворчасьці сялянскае гаспадаркі Дзяржаўная Плянавая Камісія распрацавала праэкт пастановы СНК аб абмежаваньні драбімасьці сялянскіх гаспадарак. З прычыны таго, што гэтае пытаньне набывае асабліва важнае значэньне, Савет Народных Камісараў разгледзеўшы гэты законапраэкт на сваім паседжаньні 11 мая г. г., пастанавіў накіраваць праэкт пастановы на абмеркаваньне акруговых выканаўчых камітэтаў, а разам з гэтым і шырокіх сялянскіх мас.

Праэктам пастановы забараняецца падзел працоўных земляробчых гаспадарак як утвораных пасьля земляўпарадкаваньня, так і неземлеўпарадкаваных у тых выпадках, калі пасьля падзелу, зробленага адпаведна колькасьці працоўных адзінак, на долю кожнага нанова ўтворанага двара можа дастацца колькасьць зямлі менш мінімальнае нормы, якая ўстаноўлена Н. К. Земляробства параённа на 4 працоўных адзінкі. Праэкт зазначае, што дзейнасьць гэтае пастановы на садова-гародныя гаспадаркі не пашыраецца.

Калі двор мае такую колькасьць зямлі, што могуць утварыцца жыцьцяздольныя паасобныя гаспадаркі, то такі, двор можа зрабіць падзел, але калі большасьць галасоў членаў двара пастановіць не дзяліць гаспадаркі, то такая гаспадарка ня можа быць падзелена, хоць-бы гэтага патрабавалі некаторыя члены двара. Пры вырашэньні пытаньняў, зьвязаных з устанаўленьнем недрабімасьці гаспадаркі, калі ў гэтай гаспадарцы ёсьць сіраты, то інтарэсы сірат абараняюцца іх апякунамі.

Калі члены двара пастановяць не драбіць сваю гаспадарку, то аб гэтым павінен быць складзены ў пісьмовай форме належны запіс аб недрабімасьці гаспадаракі. Такі запіс павінен адзначаць:

а) назву сяленьня, сельсавету, раёну, акругі, дзе знаходзіцца гаспадарка;

б) паказаньне прозьвішча, імя і імя па бацьку ўладара і складу яго сям'і з паказаньнем узросту ўсіх членаў гаспадаркі;

в) вызначэньне колькасьці зямлі, якая знаходзіцца ў гаспадарцы, з падзелам па ўгодзьдзях;

г) зьвесткі аб будынках, а таксама аб жывым і мёртвым інвэнтары;

д) волявыяўленьне поўнапраўных членаў двара адносна тэрміну недрабімасьцьці гаспадаркі. Гэты тэрмін не павінен быць меншы аднаго севазвароту. Запіс аб недрабімасьці гаспадаркі падпісваецца большасьцю поўнапраўных членаў двара або іх прадстаўнікамі і пасьвядчаецца ў сельсавеце ў тыднёвы тэрмін. Скаргі на адмаўленьне ў рэгістрацыі і на няправільнасьць рэгістрацыі падаюцца ў 2-х тыднёвы тэрмін у раённы выканаўчы камітэт на агульнай падставе.

Калі члены двара выходзяць з складу недрабімае гаспадаркі ў выпадку, калі яны знойдуць да выхаду з складу двара заняткі для сябе або пажадаюць заняцца якімі-небудзь промысламі ў гэтым-жа сельсавеце, то гэтыя члены двара могуць патрабаваць адводу ім сядзібнага вучастку з складу свайго двара з захаваньнем аднак 111 арт. Зямельнага Кодэксу і з захаваньнем правіл сельскага будаўніцтва.

У тым выпадку, калі сумеснае жыцьцё на недрабімай гаспадарцы стане немагчымым і дабравольнай згоды аб тым, хто з членаў двара павінен выйсьці з гаспадаркі, ня будзе, то пытаньне гэтае па хадайніцтву членаў двара вырашаецца зямельнымі камісіямі. Аб парадку ўжываньня гэтага арт. Н. К. Земляробства па ўзгадненьні з Н. К. Юстыцыі павінен распрацаваць інструкцыю, якая павінна быць зацьверджана Саветам Народных Камісараў.

Члены двара, калі яны выходзяць з складу недрабімае гаспадаркі, карыстаюцца правам на надзяленьне зямлёю з запаснага зямельнага фонду на агульных падставах або карыстаюцца правам на перасяленьне у першую чаргу на землі калёнізацыйнага фонду, які будзе давацца для БССР.

З выданьнем проэкту гэтае пастановы павінна быць скасавана пастанова СНК БССР за 10 красавіка 1925 г. аб спыненьні падзелаў сялянскіх гаспадарак.

Народнаму Камісарыяту Земляробства запрапанавана пераапрацаваць і ўдакладніць нормы недрабімасьці сялянскіх гаспадарак.

Народнаму Камісарыяту Земляробства, а таксама Народным Камісарыятам Фінансаў, Юстыцыі і Беларускаму Сельска-Гаспад. Банку запрапанавана пры распрацоўцы законапалажэньняў, інструкцый і правіл у галіне зямельных адносін, а таксама і ў галіне норм і мэтадаў абкладаньня, дачы льгот і крэдытаваньня сялянскіх гаспадарак прымаць пад увагу патрэбу зьнішчэньня стымулаў, якія ўзмацняюць імкненьні сялянства да падзелаў.

**А. М.**

---

## 19. Аб вызначэньні і пашырэньні гарадзкой мяжы.

(*У парадку абмеркаваньня*).

Дзейнічаючае зямельнае законадаўства ведае тры катэгорыі зямель: землі сельска-гаспадарчага прызначэньня, гарадзкія землі і, нарэшце, землі спэцыяльнага прызначэння. Аднясеньне зямлі да той або іншай катэгорыі зьмяняе яе правовы характар, а таму дакладнае разьмежаваньне гэтых катэгорый надае вялікую тэарэтычную і практычную цікавасьць. Аднак, тут мы павінны адзначыць, што асноўныя прынцыпы нашага дзейнічаючага зямельнага законадаўства, як напрыклад, нацыяналізацыя зямлі і забраньне апошняй з грамадзянскага звароту, у аднолькавай ступені прыстасоўваемы да ўсіх катэгорый зямель. Асобны правовы характар гарадзкіх зямель знаходзіць сабе падцьвярджэньне ў арт. 130 Зямельнага Кодэксу БССР, які ўстанаўляе, што „зямельныя парадкі ўнутры гарадзкой мяжы вызначаюцца асобнымі законамі; дзеяньні зямельных органаў на гэтыя землі не распаўсюджваюцца“.

На падставе арт. 130 Зямельнага Кодэксу Цэнтральным Выканаўчым Камітэтам і Саветам Народных Камісараў БССР было выдана палажэньне аб зямельных распарадках у гарадох і пасяленьнях гарадзкога тыпу БССР за 18 верасьня 1925 г. (Збор Зак. БССР 1925 г., № 43). Паводле арт. 1 гэтага палажэньня, усе землі ў граніцах гарадзкой мяжы з лясамі і зялёнымі насаджэньнямі, якія на іх знаходзяцца, нетры гарадзкіх зямель, берагавая паласа і водныя прасторы ў граніцах гэтай мяжы, у чыім-бы карыстаньні яны не знаходзіліся, за выключэньнем зямель спэцыяльнага прызначэньня, якія фактычна знаходзяцца ў непасрэдным веданьні адпаведных Народных Камісарыятаў, як напрыклад, зямель, занятых жалезна-дарожнымі шляхамі і станцыйнымі заудаваньнямі, зямель занятых пастаяннымі прыстанямі для воднага транспарту і г. д.. знаходзяцца ў непасрэдным веданьні выканаўчых камітэтаў у асобе іх органаў мясцовае гаспадаркі.

Палажэньне аб гарадзкіх зямельных распарадках дзеліць гарадзкія землі на сядзібныя і па-засядзібныя.

Да гарадзкой сядзібнай плошчы адносяцца фактычна забудаваныя вучасткі разам з землямі, якія неабходны для абслугоўваньня гэтых вучасткаў, як напрыклад, двор, агарод і сад, а таксама тыя плошчы, якія зварочваюцца ўноў пад забудоўку.

Як у сядзібнай мяжы гораду, так і па-за сядзібнай могуць быць з е м л і а г у л ь н а г а к а р ы с т а н ь н я, напрыклад, плошчы, дарогі, вуліцы, сады, бульвары, месцы для вывазу сьнегу, сьмецьця і г. д. і г а р а д з к і я ў д о б ‘ і, як напрыклад, лясы, тарпянікі, землі сельска-гаспадарчага прызначэньня (выганы, лугі, пашні, агароды).

Арт. 37 палажэньня ўстанаўляе, што парадак карыстаньня землямі сельска-гаспадарчага прызначэньня, а таксама парадак забраньня зямель ад асоб, якія займаюцца выключна сельскаю гаспадаркаю, вызначаюцца па дзейнічаючых артыкулах першай часткі Зямельнага Кодэксу з захаваньнем законаў аб адзіным сельска-гаспадарчым падатку.

Паводле арт. 38 таго-ж палажэньня аб зямельных распарадках у гарадох, усе спрэчкі аб правох на землякарыстаньне ў сядзібнай мяжы як паміж асобнымі землякарыстальнікамі, так і паміж землякарыстальнікамі і органамі выканаўчых камітэтаў, якія ведаюць мясцоваю гаспадаркаю, вырашаюцца народным судом у агульным парадку, а па-засядзібнай мяжой—акруговай зямельнай камісіяй.

З сказанага аб асобным правовым характары гарадзкіх зямель выяўляецца надзвычайна важнае значэньне вызначэньня гарадзкой мяжы ў гарадох і пасяленьнях гарадзкога тыпу, а таксама перамяшчэньня або пашырэньня гэтай мяжы.

Неабходна мець на ўвазе, што пры вызначэньні дзейнічаючай гарадзкой мяжы яна павінна ахапіць землі, дакладна вызначаныя і ўжо прызнаныя законам гарадзкімі.

Пры пашырэньні-ж гарадзкой мяжы ў склад гарадзкіх зямель уключаюцца таксама землі не гарадзкія.

Інструкцыя Народных Камісарыятаў Земляробства і Ўнутраных Спраў БССР па ўжываньню пастановы Зямельнага Кодэксу аб гарадзкіх землях за 10 сакавіка 1926 году (Бюлетэнь СНК, 1926 г., № 4) даволі падрабязна рэглямэнтуе пытаньні вызначэньня і пашырэньня дзейнічаючай гарадзкой мяжы.

Вызначэньне дзейнічаючай гарадзкой мяжы ў гарадох і пасяленьнях гарадзкога тыпу, а таксама пашырэньне гэтай мяжы, робіцца земляўпарадчымі ўстановамі ў агульным земляўпарадчым парадку, паводле Зямельнага Кодэксу і памянёнай інструкцыі.

Спрэчкі, якія ўзьнікаюць пры гэтым, вырашаюцца ў якасьці першай інстанцыі акруговымі зямельнымі камісіямі.

Паводле арт. 5 інструкцыі, у склад дзейнічаючай гарадзкой мяжы ўваходзяць:

а) усе забудаваныя кварталы гарадоў з садамі, паркамі і агародамі, якія знаходзяцца на іх;

б) усе прылягаючыя да паказаных кварталаў землі, належаўшыя да Рэвалюцыі гораду на праве ўласнасьці і не аддадзеныя затым зямельнымі органамі ў працоўнае карыстаньне грамадзян да 1-га красавіка 1925 году, або хоць і не належаўшыя раней гораду, але фактычна знаходзіўшыеся к паказанаму вышэй часу ў веданьні камунальных аддзелаў;

в) землі, хоць і непадходзячыя пад п. п. „а“ і „б“, але акружаныя землямі, падлягаючымі ўключэньню ў гарадзкую мяжу на падставе паказаных пунктаў.

Хадайніцтва аб правядзеньні земляўпарадчых работ у зьвязку з вызначэньнем усёй гарадзкой мяжы або толькі часткі яе падымаецца акруговым аддзелам камунальнай гаспадаркі са згоды акруговага выканаўчага камітэту перад акруговым зямельным аддзелам.

Што тычыцца пашырэньня гарадзкой мяжы, то яно можа зрабіцца толькі ў строга вызначаных выпадках.

Арт. 15 вышэйпамянёнай інструкцыі па ўжываньню пастановы Зямельнага Кодэксу аб гарадзкіх землях дакладна паказвае гэтыя выпадкі, а іменна:

1) у зьвязку з ростам колькасьці гарадзкога насяленьня і неабходнасьцю пашырэньня сядзібнай плошчы для задаваленьня жыльлёвай патрэбы;

2) у мэтах падняцьця гарадзкога дабрабыту шляхам пашырэньня зялёнай паласы, адбудовы паркаў, стварэньня неабходных збудаваньняў, зьвязаных з вадазадаваленьнем, каналізацыяй і іншымі мерапрыемствамі дабрабыту, і

3) у выпадках разьвіцьця забудоўкі прылягаючых да дзейнічаючай гарадзкой мяжы зямельных вучасткаў, якія набываюць характар прыгараду.

Трэба цьвёрда помніць, што пашырэньне гарадзкой мяжы ні ў якім выпадку ня можа быць дапускаема з мэтаю павялічэньня гарадзкога арэнднага фонду для сельска-гаспадарчага скарыстаньня.

Справа аб пашырэньні гарадзкой мяжы падымаецца камунальным аддзелам са згоды акругавага выканаўчага камітэту шляхам падачы адпаведнае заявы ў акруговы зямельны аддзел.

Дзеля таго, што пашырэньне гарадзкой тэрыторыі можа зрабіцца толькі ў выпадках настойнай неабходнасьці ў гэтым, то камунальны аддзел павінен падаць пераканальныя данныя аб неабходнасьці пашырэньня гарадзкой мяжы, тым болей, што пашырэньне гарадзкой тэрыторыі можа адбіцца ў непамысным сэнсе на склаўшымся каля гораду працоўным землякарыстаньні.

Пагэтаму арт. 19 памянёнай інструкцыі патрабуе ад камунальнага аддзелу пры падыманьні справы аб пашырэньні гарадзкой мяжы падачу праэкту скарыстаньня мяркуемай да далучэньня мясцовасьці з паказаньнем на ім вуліц. плошчаў і іншых месц грамадзкага карыстаньня або прызначэньня, а таксама і мяркуемых камунальных збудаваньняў.

Як ужо было сказана, справа па пашырэньню гарадзкой мяжы, як і справа аб вызначэньні дзейнічаючай гарадзкой мяжы праходзіць усе стадыі земляўпарадчага правядзеньня.

У выпадку недасягненьня згоды справа пераходзіць, паводле арт. 129 Зям. Код., на канчатковае вырашэньне Прэзыдыуму Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту.

Па зацьверджаньні праэкту новай гарадзкой мяжы ва ўстаноўленым для таго парадку на далучанай к гораду зямлі з паказанага ў зацьверджаным праэкце тэрміну спыняецца ўлада раённага выканаўчага камітэту і зямельных органаў і распаўсюджваецца ўлада аддзелу камунальнай гаспадаркі.

Пры гэтым за ўсімі землякарыстальнікамі ўноў далучанай да гораду тэрыторыі, якія зацьверджаным праэктам пашырэньня гораду ня былі пазбаўлены права карыстаньня зямельнымі вучасткамі, захоўваюцца, паводле ўвагі да арт. 22 інструкцыі, усе правы, дадзеныя ім зямельнымі органамі да далучэньня к гораду да часу надыходу патрэбы ў забраньні іх для дабрабату або забудоўкі гораду.

Пашырэньне гарадзкой мяжы, як паказвае зямельна-судовая практыка, выклікае часта спрэчкі паміж органамі камунальнае гаспадаркі і працоўным земляробчым насяленьнем, землі якога першыя просяць аб уключэньні ў склад гарадзкой мяжы.

Пры вырашэньні гэтых спрэчак неабходзен надзвычайна асьцярожны і ўдумчывы падход, дзеля таго, што ад правільнага вырашэньня іх залежыць у значнай ступені стварэньне правільных узаемаадносін паміж горадам і вёскай.

Гэтага таксама патрабуюць з аднаго боку неабходныя прадпасылкі для развіцьця гарадоў, а з другога боку—інтарэсы працоўных земляробчых гаспадарак, інтарэсы разьвіцьця сельскае гаспадаркі.

Пагэтаму зямельныя камісіі, разглядаючы справу аб пашырэньні гарадзкой мяжы, павінны ўсімі мерамі выясьніць, наколькі неабходна пашырэньне гарадзкой мяжы і чым дыктуецца неабходнасьць уключэньня ў склад гарадзкіх зямель таго або іншага зямельнага вучастку.

Толькі пры настойнай неабходнасьці ўключэньня зямельнага вучастку ў склад гарадзкой тэрыторыі пытаньне павінна быць вырашана ў станоўчым сэнсе.

Калі рост гарадоў у зьвязку з разьвіцьцём фабрычна-заводзкай прамысловасьці выклікае неабходнасьць пашырэньня граніц гарадзкой зямлі, то гэта не заўсёды можна сказаць пра нашы мястэчкі, якія зьяўляюцца пасяленьнямі гарадзкога тыпу, дзе значная частка насяленьня займаецца земляробствам і дзе фабрычна-заводзкая прамысловасьць не разьвіта або слаба разьвіта. Гэта неабходна прымаць пад увагу пры разгляданьні спраў аб пашырэньні гарадзкой мяжы мястэчак, задавальняючы хадайніцтвы аб гэтым толькі ў тых выпадках, калі ў гэтым ёсьць сапраўдная неабходнасьць.

**Д. Гарцман.**

---

## 20. Аб рэарганізацыі і спрошчаньні працы савецкіх органаў.

*(У парадку абмеркаваньня).*

Народны Камісарыят Рабоча-Сялянскай Інспэкцыі у сваёй адносіне за 22 красавіка г. г. за № 110—19 падняў пытаньне перад ніжэйшымі савецкімі органамі аб скарачэньні і спрошчаньні працы савецкіх устаноў альбо праўдзівей—дачы больш юрыдычнасьці раённым выканаўчым камітэтам і сельскім саветам і вызваленьні вышэйшых савецкіх устаноў ад дробнай апекі над імі.

Праўда, трэба адзначыць, што гэта пытаньне ўжо насьпела і насьпела востра блізка каля трох год таму назад. Тыя абручы, якімі былі сьціснуты раённыя выканаўчыя камітэты і сельскія саветы у адносінах іх правоў--пачалі трэскацца, раённыя выканаўчыя камітэты да дзесятага гаду Кастрычнікавай рэвалюцыі настолькі акрэплі ў сваёй працы і падрыхтавалі добры і крэпкі актыў—што перад намі стаіць ва усёй сваёй шырыні пытаньне аб пашырэньні правоў як раённых выканаўчых камітэтаў, сельскіх саветаў, таксама і гарадзкіх саветаў; не сакрэт і тое, што падчас, ня кажучы ўжо аб акруговых выканаўчых камітэтах, займаецца дробнымі пытаньнямі і ЦВК БССР (хай будзе сказана ня ўкрыўду ЦВК, бо факт застаецца фактам).

Для большай яскравасьці і для падцьвярджэньня сваіх слоў адносна разглядаемых ЦВК дробных пытаньняў, спынюся на адным моманце. Прыклад: Сяргэй Ікс ехаў у горад заплаціць страхоўку; па дарозе ў яго зламалася аглобля, а дарога праходзіць як раз праз лес дзяржаўнага значэньня; што яму было рабіць ў такім выпадку,--не запрагаць-жа сябе ў аглоблі: ён сьсек вяршковую бярозку і замяніў зламаную аглоблю; калі ён усё гэта зрабіў і паехаў далей, выходзіць лясьнік, затрымлівае Сяргея Ікс і складае пратакол за парубку. Пратакол ідзе аб'езчыку, аб'езчык накіроўвае ў лясьніцтва, лясьніцтва—у раённы выканаўчы камітэт. Апошні піша

пастанову, у якой прапануе міліцыі сыскаць карнявы кошт парубкі у суме 60 кап. і штраф ў суме 70 кап. Міліцыя, атрымаўшы гэту пастанову, выяжджае на раён для выкананьня адміністрацыйнае пастановы Раённага Выканаўчага Камітэту, але, пабываўшы ў Сяргея Ікс, міліцыя убачыла, што сыскаць няма з чаго, у сувязі з чым складае акт аб незаможнасьці і ўсю перапіску накіроўвае сумесна з актам аб незаможнасьці ў Раённы Выканаўчы Камітэт. Апошні разглядае на паседжаньні прэзыдыуму гэты акт і пастанаўляе: штраф у суме 70 кап. зьняць і хадайнічаць перад Акруговым Выканаўчым Камітэтам аб зьняцьці 60 кап. карнявога кошту па незаможнасьці гаспадаркі. Потым уся перапіска ідзе ужо ў Акруговы Выканаўчы Камітэт, а апошні таксама абмяркоўвае на паседжаньні прэзыдуму і пастанаўляе: штраф з Сяргея Ікс у суме 70 кап. зьняць і хадайнічаць перад ЦВК БССР аб зладжэньні 60 кап. карнявога кошту па незаможнасьці гаспадаркі.

Акруговы Выканаўчы Камітэт усю перапіску накіроўвае ў Цэнтральны Выканаўчы Камітэт; і апошні таксама выносіць сваю пастанову альбо аб аслабаненьні сысканьня карнявога кошту, альбо аб памяншэньні на некалькі процантаў. А ужо на тым, сколькі лістоў зьбіраецца гэтае перапіскі і на тым, колькі патрачана на гэта часу і тэхнічных і адказных працаўнікоў, я тут спыняцца ня буду: той, хто працуе ў нізавым савецкім органе, сам дагадаецца.

Няўжо-ж раённыя выканаўчыя камітэты на столькі не аўтарытэтны што ім нельга даць права самастойна зьняць карнявы кошт па незаможнасьці гаспадаркі? няўжо Раённы Выканаўчы Камітэт можа зрабіць памылку ў вырашэньні гэтага пытаньня? Калі-ж гэта так, то і Цэнтральны Выканаўчы Камітэт тут можа яшчэ скарэй памыліцца, бо адкуль вядома Цэнтральнаму Выканаўчаму Камітэту, хто такі Сяргей Ікс і якое яго матар'яльнае станоівішча, усероўна і пастанову ён выносіць на падставе заключэньня Раённага Выканаўчага Камітэту і Акруговага Выканаўчага Камітэту.

Калі-ж Цэнтральны Выканаўчы Камітэт разглядвае гэтыя пытаньні толькі таму, што лес гэты зьяўляецца дзяржаўным, то тут становіцца сьмешна: няўжо-ж раённы выканаўчы камітэт не зьяўляецца дзяржаўнаю ўстановаю і яшчэ сьмяшней, што гэты самы карнявы кошт накладае раённы выканаўчы камітэт, а зьнімае Цэнтральны Выканаўчы Камітэт. Дзе-ж тут хуткае вырашэньне скарг сялянства? дзе-ж тут прыбліжэньне савецкага апарату да масы, калі, каб аслабаніць бедняка ад 60 кап. карнявога кошту за самавольную парубку, трэба абавязкова дабрацца да Раённага Выканаўчага Камітэту, потым да Акруговага і нарэшце да Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту? І ці-ж гэтым не ствараецца нікому не патрэбная бюрократычная валакіта ў савецкіх органах?

Я лічу, што для палепшаньня працы нізавых савецкіх органаў трэба зрабіць наступнае:

1. Пытаньні аб усякіх лясных злачынствах трэба канчаткова перадаць ніжэйшім савецкім органам і не акруговым выканаўчым камітэтам, а толькі раённым выканаўчым камітэтам; тады Цэнтральны Выканаўчы Камітэт, а таксама і акруговыя выканаўчыя камітэты будуць вызвалены ад гэтай дробнай працы і змогуць больш увагі ўдзяляць сваей асноўной кіраунічай працы.

2. Даць права раённым выканаўчым камітэтам канчаткова разглядаць ўсякія пытаньні, зьвязаныя як з налічэньнем, а таксама і аслабаненьнем па адзінаму с.-г. падатку, чым будзе дасягнута тое, што акруговы фінансавы аддзел і Народны Камісарыят Фінансаў вы-

зваляцца ад разгляду дзесяткаў тысяч тых скарг, якія накіроўваюцца ім пры цяперашняй постаноўцы работы.

3. Даць большую самастойнасьць раённым выканаўчым камітэтам у галіне распараджэньня зацьверджаным бюджэтам свайго раёну.

4. Палепшыць матар'яльнае становішча як адказных, а таксама і тэхнічных раённых працаўнікоў, бо калі паўстае пытаньне вылучэньня на адказную раённую працу рабочага ад станка, то апошні ад яе адмаўляецца, бо на заводзе ён больш заробіць, чым у раённым выканаўчым камітэце, альбо ў іншай раённай установе.

5. Скараціць папернае кіраўніцтва з боку акруговага выканаўчага камітэту і наладзіць жывую сувязь і інструктаваньне, для чаго патрэбна падабраць адпавядаючы штат інструктароў, павялічыўшы іх заработную плату, бо ў нас бываюць такія інструктары, што яны ніколі і не працавалі на падобнай рабоце, што адбіваецца на працы як акруговых, так і раённых выканаўчых камітэтаў, бо якое інструктаваньне, такія і вынікі.

6. Пажадана, каб у больш буйных раёнах меўся адзін інструктар пры Раённым Выканаўчым Камітэце, які-б меў рэгулярную жывую сувязь з сельскімі саветамі і кіраваў іх працай.

7. Трэба абавязкова ва ўсіх сельскіх саветах увесьці свой бюджэт.

8. Даць права сельскім саветам сыскваць самім на месцы адзіны сельска-гаспадарчы падатак.

9. Даць трэцьцяга платнага працаўніка ў сельскі савет, намесьніка старшыні с./с., а то падчас бываюць выпадкі, што намесьнік старшыні-то вылучан, а працаваць у сельскім савеце ён адмаўляецца і кажа, што каму плаціць грошы, няхай той і працуе, а яму трэба працаваць у гаспадарцы, у сувязі з чым часта зрываюцца пасяджэньні прэзыдыумаў сельскага саветаў, асабліва летам, калі наступаюць палявыя работы.

10. Гарадзкім саветам таксама патрэбна выдзеліць іх бюджэт, а то атрымліваецца так, што гарадзкому савету патрэбны 3 руб. на канцылярскія прылады і ён піша ў Раённы Выканаўчы Камітэт трэбаваньне, апошні выпісвае ордэр і ўжо потым Гарадзкі Савет атрымлівае грошы з касы Раённага Выканаўчага Камітэту. Гэта называецца— самастойны бюджэт гарадзкога савету. Ды к таму-ж яшчэ, калі ў мінулым годзе бухгальтэрыя Раённага Выканаўчага Камітэту вяла толькі адзін бюджэт, то ў гэтым годзе вядзе тры: гарадзкі, сельскі і раённы.

11. Трэба адмовіцца раз і назаўсёды ад ганаровага старшынства старшынь раённых выканаўчых камітэтаў у гарадзкіх саветах, а трэба у далейшым зрабіць так, каб старшыня гарадзкога савету ня быў зьвязан з другой працай, як гэта ёсьць у сучасны момант, а то цяперашні старшыня Раённага Выканаўчага Камітэту—ён-жа старшыня гарадзкога савету—круціцца, як ашпараны, бо і сам ня ведае, куды яму больш зьвяртаць увагі: ці на Раённы Выканаўчы Камітэт, ці на гарсавет, бо зьвяртаць увагу на абодвы фронты няма ніякай магчымасьці.

Толькі пры паказаных умовах мы зможам палепшыць працу нашых нізавых савецкіх органаў і дадзім ім больш адпаведныя ўмовы для працы.

Гэта пытаньне патрэбна вынесьці на старонкі друку для абмеркаваньня ўсімі нізавымі савецкімі працаўнікамі.

**С. Лодысеў.**

4 мая 1927 г.
г. Шклоў, Магілёўск. акр.

## 21. Ці сапраўды мёртвы арт. 69 Зямельнага Кодэксу.

Прачытаўшы ў „Бюлетэні СНК БССР“ № 4 (29) 1927 г. артыкул т. Рэйшах-Рыта аб „Законе, які на практыцы ніколі ня ўжываецца“, бадай чытач сапраўды закрычыць: „Дапамажэце агульнымі высілкамі ажыцьцявіць гэты закамянелы артыкул у жывую норму права„.

Між тым дарэмна т. Рэйшах-Рыт падымаў такую трывогу. Ня так ужо страшны чорт, якім яго малююць.

Праўда, для гэтага 69 артыкулу і для інтарэсаў сельскае гаспадаркі БССР лепш, што т. Рэйшах-Рыт закрычаў каравул, бо так мы „агульнымі высілкамі“ дакажам, што 69 арт. Зям. Код. жыве і на практыцы, і ў быту беларускага селяніна.

Мы ня ведаем практыкі ні т. т. Рэйшах-Рыта ні Гарцмана, але гаворым, што іх практыка—ня наша практыка, што рэцэпт т. Гарцмана (аб якім будзе ніжэй паказана) атрутны, поўны тысячамі небясьпек. Мы практыкі—судовыя працаўнікі—засьцерагаем усякага і кожнага, хто мае справу з гэтым 69 артыкулам, каб яны ня прымалі рэцэпту т. Гарцмана, а то з ім небясьпечна.

Сапраўды-ж, ці так кепска з гэтым 69 артыкулам Зямельнага Кодэксу: ці сапраўды ён мёртвы, або мёртвы толькі ў практыцы гэтых таварышаў?.

Мы сьцьвярджаем, што артыкул гэты жыве ў нашай судовай практыцы і жыцьцёвы ён з дню яго нараджэньня, якраз з 15-га красавіка 1923 г. Аб гэтым гавораць тысячы рашэньняў народных судоў і рашэньняў б. Вышэйшага Суду Рэспублікі і Менскага Акруговага Суду.

Т. Рэйшах-Рыт сьцьвярджае, што „ніякія пратэсы даўжніка і іншых членаў двара ня выратуюць маемасьці ад продажу, а двор ад разбурэньня“ у выпадку сысканьня за даўгі паасобных яго членаў, і што яго „практыка паказала, што ні суд, ва ўсіх яго інстанцыях, ні пракуратура ў гэтых выпадках, звычайна, не аказваюць належнай абароны сялянскаму двару і арт. 69 Зям. Код. застаецца няжывой літарай закону, не знаходзячай сабе ўжываньня ў жыцьці“.

Дрэнная, т. Рэйшах-Рыт, Ваша практыка, а яшчэ больш дрэнна, што Вы ня ведаеце таго, што нават алімэнты падлягаюць нормам арт. 69 Зям. Код.

У нас у БССР пакуль няма такога тлумачэньня, якое рэкамэндавала-б спаганяць алімэнты з маемасьці ўсяго двара. Мы—судзьдзі—маем пакуль, што толькі арт. 69 Зям. Код. і абежнік Н. К. Юстыцыі 1924 г. за № 47 (З. З. БССР 1924 г. № 15, арт. 136), у якіх, як Вы самі, т. Рэйшах-Рыт, згаджаецеся, ніякіх выключэньняў з агульнага закону не паказана.

Наадварот, нам, судзьдзям, на грунце нашае практыкі вядомы якраз іншыя вынікі дзейнічаньня гэтага закону. Спагнальнік, асабліва па алімэнтах, часта атрымлівае нязначную частку таго, што яму судом прысуджана. Чаму гэта так? А вось чаму! Гэты няжывы закон у лябараторыі народнага суду, у яго камэры, ператвараецца ў жывое. Народны суд устанаўляе долю даўжніка ў гаспадарцы двара, і сысканьне накладаецца толькі на гэту долю, а калі алімэнты прысуджаны на шэраг гадоў, дык доля даўжніка пагашаецца сысканьнем за адзін, два гады, і спагнальнік павінен чакаць, пакуль данная гаспадарка пашырыцца і даўжнік, працуючы з астатнімі членамі двара, нанова набудзе поўную долю ў гаспадарцы.

І тут адным словам мы адказваем т. Рэйшах-Рыту, што з моманту ўвядзеньня ў дзейнасьць Зямельнага Кодэксу (з 15 красавіка 1923 г.) паступіла тысячы спраў аб вызваленьні ад опісу і продажу маемасьці на падставе арт. 69 Зям. Код., і б. Вышэйшы Суд, а пасьля Менскі Акруговы Суд бязупынна трымалі курс на тое, каб гэты закон не застаўся „мёртвым“, і калі селянін зьвяртаўся ў нашы народныя суды з сваімі іскавымі заявамі аб вызваленьні маемасьці ад опісу і продажу ў парадку арт. 69 Зям. Код. (а яны зьвярталіся дзесяткамі тысяч) і калі народныя суды заўсёды кіраваліся гэтым „мертвым“ 69 арт. Зям. Код., дык трэба сказаць, што т. Рэйшах-Рытня ведае сялянскага жыцьця і нашае судовае практыкі ў БССР. А калі ўсё-ж у практыцы шмат сысканьняў за даўгі паасобных членаў двара накладаецца на маемасьць ўсяго сялянскага двара, дык, значыць, кепскі нашы народныя судзьдзі, пракуроры, праваабаронцы, калі да гэтага часу не змаглі папулярызаваць сярод сялян тых нашых законаў, якія ў нашым быту і эканоміцы заклікаНы быць найважнейшым праваднікОм хоць і маруднага, але пэўнага разьвіцьця сацыялістычнае гаспадаркі.

Калі-ж гэта так, то трэба аб гэтым крычаць і зрабіць так, каб у бліжэйшы час кожны селянін ведаў тыя асноўныя артыкулы, галоўным чынам, Зямельнага Кодэксу, у якіх выкладзены агульныя прынцыпы сацыялістычнага будаўніцтва на вёсцы.

Цяпер некалькі ўваг да артыкулу т. Гарцмана, зьмешчанага ў „Бюлетэні СНК БССР“ № 6(31) 1927 г.

Калі т. Рэйшах-Рыту зусім няясны арт. 69 Зям. Код. і абежнік НКЮ БССР за № 47 па пытаньні аб тым, хто-ж, нарэшце, пры зьвяртаньні сысканьня на маемасьць двара за доўгі паасобнага яго члена, павінен паднімаць хадайніцтва аб выдзеле,—спагнальнік, даўжнік, або іншыя члены двара, то, па думцы т. Гарцмана, тут нічога няяснага няма. Калі тут ставіць пункт, напэўна і мы згодзімся з т. Гарцманам, а т. Рэйшах-Рыта адсылаем да V разьдзелу Зям. Код. „Аб падзелах працоўных земляробчых гаспадарак (двароў), і калі мы сьцьвярджаем, што ўсякі падзел у большасьці выпадкаў зьвязан з спрэчкай, то просім т. Рэйшах-Рыта яшчэ прачытаць 2 арт. Г. К., пасьля чаго і для яго ясна будзе, хто павінен паднімаць хадайніцтва аб выдзеле. Напэўна той падніме, каму балюч опіс маемасьці, іменна галава двара (арт. 66 Зям. Код.).

У сваю чаргу не рэкамэндуем карыстацца рэцэптам т. Гарцмана, бо яго спосаб выдзелу долі даўжніка можа абыйсьціся даражэй, ды і судовы выканаўца ня возьмецца за гэту справу па просьбе т. Гарцмана, бо выканаўца добра ведае арт. 256 ГПК, дзе ясна паказана, на падставе чаго ён можа распачаць выкананьне сваіх дзеяньняў (бо пакуль гэты артыкул не дапоўнен такім пунктам).

У тым, што зьвяртаньне сысканьня на маемасьць усяго двара за доўг паасобнага яго члена павінен выклікаць на падставе арт. 69 Зям. Код. выдзел долі апошняга ў гаспадарцы, т. Гарцман праў, але выдзел гэты зробіць ня судовы выканаўца, але, паводле правіл V разьдзелу Зям. Код., народны суд, аднак зноў-такі не па рэцэпту т. Гарцмана, г. зн., не на грунце норм арт. 81 Зям. Код., а па прынцыпу арт. 65 Зям. Код. і вось чаму.

Арт. 81 гаворыць: „Пры сямейных паддзелах зямельныя і маемасныя долі падзяляючыхся членаў двара азначаюцца па ліку яго працоўных адзінак“. Па дакладнаму сэнсу законадаўцы, мы ў гэтым артыкуле маем налічча сямейнага падзелу, г. зн. падзел

двара, паводле-ж арт. 71 Зям. Код. „падзел працоўнае земляробчае гаспадаркі заключаецца ў разьмеркаваньні паміж членамі двара, незалежна ад стану і ўзросту, ў паасобнае карыстаньне зямельных угодзьдзяў і маемасьці, знаходзячыхся ў агульным карыстаньні ўсяго двара“. А калі яшчэ мець на ўвазе арт. 72 Зям. Код., што „падзел зямельных угодзьдзяў двара дапушчаецца толькі ў мэтах і пры ўмовах мажлівасьці стварэньня выдзяляючыміся членамі двара новых земляробчых гаспадарак на выдзяляемых ім землях, у іншыхжа выпадках можа вынікаць толькі разьмеркаваньне маемасьці двара“, дык стане ясным, што ў абмяркоўваемым намі выпадку няма і ўспаміну аб сямейным падзеле або разьмеркаваньні маемасьці двара, а ёсьць налічча толькі патрэбы ўстанаўленьня долі члена двара для зьвяртаньня на яе сысканьня за даўгі, з прычыны чаго ў гэтым выпадку мы кіруемся ня 81, але 65 артыкулам Зям. Код., г. зн., устанаўляем долю даўжніка ў гаспадарцы па адзнаках роўнапраўя ўсіх членаў двара на агульную яго маемасьць, як раз дзелім апошнюю па ліку едакоў у складзе двара, незалежна ад стану і ўзросту.

Вось, як ажыцьцяўляюць нашы Суды гэты няжывы, па пагляду т. Рэйшах-Рыта, 69 арт. Зям. Код., і ў гэтай працы дапамагаюць Зямельныя Камісіі тым, што выпадкова папаўшыя у іх справы, яны самі накіроўваюць у народныя суды.

Што-ж тычыцца пытаньня аб далейшым членстве ў складзе двара такога даўжніка, і таго, на якой падставе ён усё-ж застаецца членам двара, якава юрыдычная прырода яго членства, то пытаньне гэта надта складнае і па некаторых частках яго яшчэ шмат паўстае спрэчных момантаў.

**Я. Кіш.**

---

## 22. Якія меры прадугледжвае Вэтэрынарны Статут БССР ў справе барацьбы з пошаснымі хваробамі хатняе жывёлы.

Самай важнай часткай Вэтэрынарнага Статуту зьяўляецца частка II-ая, дзе гаворыцца аб барацьбе з пошаснымі хваробамі хатняе жывёлы.

Тут паказваюцца агульныя меры барацьбы з пошаснымі хваробамі і асобныя меры, якія павінны ўжывацца пры асобных пошасных хваробах.

На першым месцы сярод гэтых мер значыцца сталы вэтэрынарны нагляд за перасоўваньнем жывёлы і перавозкай сырых жывёлавых прадуктаў (скур, шэрсьці, шчаціны, касьцей, кішак і г. д.) па чыгуначных, вадзяных і грунтавых шляхох зносін. Далей надзвычайна вялікае значэньне мае вэтэрынарны нагляд за месцамі зграмаджэньня жывёлы, а таксама за месцамі хаваньня, продажу і апрацоўкі сырых жывёлавых прадуктаў (разьніцы, кірмашы, рынкі, племянныя гаспадаркі, конскія заводы, злучныя пункты, гарбарні і інш.).

Артыкулам 14 Вэтэрынарнага Статуту устанаўляюцца меры барацьбы з пошаснымі хваробамі, накіраваныя непасрэдна да недапушчэньня распаўсюджваньня заразы.

Меры гэтыя наступныя:

1) Рэгістрацыя выпадкаў заразных хвароб, паказаных ў арт. 4 Вэтэрынарнага Статуту, г. з. абавязковае паведамленьне аб зьявіў-

шайся пошасьці ў адпаведныя вэтэрынарныя органы. Гэта неабходна для падліку заразных хвароб, падліку іх распаўсюджваньня, шкоды і небясьпекі іх. Толькі маючы аб хваробе дакладныя зьвесткі, можна правільна пабудаваць і разгарнуць барацьбу з пошаснаю хваробаю.

2) Зарэз жывёлы з дазваленьнем наступнага скарыстаньня іх на мяса ў мясцох зьяўленьня хваробы альбо на разьніцах і зарэзных пунктах, знаходзячыхся пад сталым вэтэрынарным наглядам. Мера гэта пры многіх пошасных захварэньнях зьяўляецца надзвычайна надзейным спосабам барацьбы з пошасьцю.

Хворая жывёліна зьяўляецца жывым разношчыкам пошасьці і чым раней яна будзе зарэзана, тым менш заразы яна разнясе і значыцца, менш прынясе шкоды. Зарэз жывёлы, хворай пошаснай хваробай, у асаблівасьці зьяўляецца вельмі карысным у мясцох выпадковага заносу пошасьці, дзе з зьнішчэньнем захварэўшай жывёліны, нярэдка ўдаецца хутка спыніць заразу. Пры некаторых хваробах, дзе лячэньне безнадзейна, зарэз—адзіны спосаб пазбавіцца ад заразы.

Такія хваробы: пошаснае запаленьне лёгкіх буйнае рагатае жывёлы, насацізна, шаленства.

Пры адных хваробах, як пошаснае запаленьне лёгкіх, мяса дапушчаецца да ўжываньня ў яду, пры другіх—як насацізна, шаленства—скарыстаньне недапушчальна ні мяса, ні скуры, ні іншых часьцей цела, для чаго Статут ў пункце 3-ім артыкулу 14 гаворыць аб зарэзе бяз права скарыстаньня мяса і іншых часьцей, з закопваньнем трупу ў зямлю ці спальваньне яго, калі немажліва скарыстаньне трупу пры дапамозе асобнай пераапрацоўкі на так званых утылізацыйных заводах.

3) Магутным сродкам барацьбы з многімі заразнымі хваробамі зьяўляюцца прадугледжаныя Вэтэрынарным Статутам прышчэпкі (пункт 4 арт. 14). Вэтэрынарны Статут прадугледжвае папераджальныя прышчэпкі, г. з. тыя, каторыя робяцца ў дабрабытным селішчы для таго, каб забараніць жывёлу ад захварэньня на той выпадак, калі сюды будзе занесена пошасьць з суседняй недабрабытнай мясцовасьці, вымушаныя прышчэпкі, каторыя робяцца ў недабрабытнай мясцовасьці жывёле, відочна здаровай; лячэбныя прышчэпкі, г. з. такія, якія робяцца хворай жывёле з лячэбнай мэтай. Нарэшце, ёсьць прышчэпкі, каторыя робяцца для выяўленьня захаванай хваробы. Такія прышчэпкі ўжываюцца пры захаваных формах насацізны і сухотаў. Яны завуцца дыагнастычнымі прышчэпкамі.

4) Вялікае значэньне ў барацьбе з заразнымі хваробамі мае таксама лячэньне жывёлы. Тады, як адны хваробы лячыць зусім бескарысна і нават забараняецца Статутам, для таго, што гэта небясьпечна, як напрыклад, пры насацізне і шаленстве, пры іншых хваробах правільнае і сваечасовае лячэньне найбольш за ўсё вядзе да выздараўленьня захварэўшай жывёлы. Гэтыя хваробы: яшчур, залозы, кароста і іншыя.

Важна адзначыць, што па Вэтэрынарнаму Статуту лячэньне пры заразных хваробах праводзіцца толькі вэтэрынарным доктарам або вэтэрынарным фэльчарам, альбо, ва ўсякім выпадку, па яго паказаньню і пад яго кіраўніцтвам.

З іншых мер барацьбы з заразнымі хваробамі Вэтэрынарны Статут у артыкуле 14 адзначае наступныя: ізаляцыя (карантынаваньне), г. з. аддзяленьне жывёлы з належным за ею вэтэрынарным наглядам. Пры гэтым наглядзе жывёла павінна трымацца ў асобным памяшканьні ці месцы, пры чым забараняецца: а) вывад яе на агульны папас і да агульнага вадапою і, наогул, з памяшканьняў; б) доступ да ізаляванае жывёлы іншай жывёлы і пабочных асоб; в) зарэз на мяса і для іншых мэт без папярэдняга агляду і дазволу вэтэрынарнага доктара. Гэта вельмі важная мера мае вялізнае практычнае значэньне і на яе трэба зьвярнуць асаблівую ўвагу як з боку насяленьня, так і з боку мясцовай ўлады.

**М. Жарын.**

---

Адказны Рэдактар: **Рэдакцыйная Калегія.**